# Малады Араты

Часопісь
сялянскай моладзі
Орган ЦКЛКСМБ



Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі

№ 14 (32) 1926 г.

# Памёр Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі

## Урадавае паведамленьне.

**МАСКВА, 20-VII. Сёньня, 20 ліпеня, а 16 г. 40 м. на сваёй кватэры памёр ад прыступу грудное жабы старшыня ВСНГ СССР т. Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі.**

**Чалавек выключнае энэргіі, цалкам адданы справе рэволюцыі—ён гарэў агнём дзейнасьці на сваіх адказных вартах. Ён і згарэў на варце.**

**Сьмерць т. Дзяржынскага здарылася праз 3 гадзіны пасьля яго гарачае зьместнае прамовы на пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б).**

**Увесь пленум з напруджанаю ўвагаю слухаў свайго ўлюблёнага таварыша.**

**Урад СССР не знаходзіць слоў для ацэнкі страты, што атрымаў увесь СССР ад нечаканае сьмерці аднаго з самых выдатных дзеячоў СССР—т. Дзяржынскага.**

**Памёр чалавек, які ня толькі кіраваў справаю разьвіцьця народнае гаспадаркі СССР, але які быў адным з гэрояў Кастрычнікавае рэволюцыі і ўвесь час стаяў на варце яе заваёваў.**

*МАСКВА, Крэмль,*
*1926 г. 20-га ліпня.*

## Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі.

(Кароткі жыцьцёпіс).

Дзяржынскі Фэлікс Эдмундавіч радзіўся ў 1877 годзе. Вучыўся ў гімназіі ў г. Вільні. У 1894 г. пачаў працаваць у соцыял-дэмократычным гуртку самаадукацыі. У 1895 г. ўваходзіць у літоўскую с.-д. партыю.

Жадаючы цалкам аддацца рэволюцыйнай працы, тав. Дзяржынскі ў 1896 г. пакінуў гімназію і пачаў працаваць агітатарам, спачатку ў Вільні, а потым у Коўні. У 1897 г. яго арыштавалі і выслалі на 3 гады ў Вяцкую губ.

У 1899 г. ён уцёк з высылкі у Вільню. З Вільні ён едзе ў Маскву, а адтуль, здабыўшы фальшывы пашпарт, паехаў у Варшаву. Там тав. Дзяржынскаму хутка ўдалося наладзіць сувязь з рабочымі і аднавіць разбураную соцыял-дэмократычную організацыю.

У лютым 1900 г. на сходзе т. Дзяржынскага арыштавалі. Спачатку яго трымалі ў варшаўскай цытадэлі, пасьля ў седлецкім вастрозе, а ў 1902 г. выслалі на 5 гадоў ва Ўсходнюю Сібір. Па дарозе ў Вілейск тав. Дзяржынскі ўцёк у лодцы з Верхаленску. Потым, перайшоў граніцу, прыехаў у Бэрлін, а праз некаторы час пераехаў жыць у Кракаў.

Да студзеня 1905 г. часта езьдзіў для падпольнае працы ў расійскую Польшчу. У студзені пераехаў туды на сталае жыцьцё і працуе ў якасьці галоўнага члена праўленьня соцыял-дэмократыі Польшчы і Літвы. У ліпені яго арыштавалі, і да кастрычніка ён праседзеў у турме.

У 1906 годзе яго паслалі дэлегатам на аб'яднаны партыйны зьезд у Стокгольме. Таго-ж году ён увайшоў у цэнтральны камітэт РС-ДРП, як прадстаўнік ад соцыял-дэмократыі Польшчы і Літвы.

У канцы 1906 г. яго арыштавалі ў Варшаве. У 1907 г. вызвалілі пад залог. Пасьля ізноў арыштавалі ў 1908 г. Два разы судзілі.

У 1909 годзе выслалі ў Сібір, у Тасееўку. Прабыўшы там 7 дзён, тав. Дзяржынскі ўцёк заграніцу і пачаў жыць у Кракаве.

У 1912 годзе вярнуўся ў Варшаву, дзе 1 верасьня яго арыштавалі. Засудзілі за ўцёк з высылкі на 3 гады катаргі. У 1914 г., пасьля пачатку вайны, яго перавезьлі ў Арол, дзе ён адбыў катаргу. Але ў 1916 г. яго перавезьлі ў Маскву, там судзілі за партыйную працу ў часе 1910-12 г.г. і дадалі яшчэ 6 год катаргі.

Лютаўская рэволюцыя застала т. Дзяржынскага ў Маскоўскім цэнтрале. Пасьля вызваленьня адтуль ён працаваў у Маскве сярод рабочых мас. У жніўні яго пасылаюць дэлегатам на партыйны зьезд, дзе яго абіраюць членам ЦК. З таго часу да Кастрычнікавай рэволюцыі ён працуе ў Ленінградзе.

У Кастрычнікавай рэволюцыі т. Дзяржынскі браў удзел як член Вайскова-Рэволюцыйнага Савету. У сьнежні 1917 г. ён організаваў УсеЧК, і быў назначан старшынёю яе. У 1919 годзе, застаючыся старшынёю УсеЧК, назначаецца Народным Камісарам Унутраных Спраў, а ў 1921 г. і Народным Камісарам Шляхоў Зносін.

Пасьля абраньня т. Рыкава старшынёю СНК, 2-гі Усесаюзны зьезд аслабаняе т. Дзяржынскага ад НКШл. Зносін і выбірае яго старшынёю ВСНГ.

З 1917 г. т. Дзяржынскі зьяўляўся нязьменным членам ЦК УсеКП(б), кіраўніком ДПУ. З сакавіка м-ца да апошняга часу т. Дзяржынскі праводзіў энэргічную працу па кіраваньні прамысловасьцю, па правядзеньні рэжыму экономіі. На гэтым пасце, у росквіце творчых сіл, спасьцігла сьмерць тав. Дзяржынскага.

## Да працоўнай моладзі Беларусі.

Цэнтральны Камітэт Ленінскага Комсамолу Беларусі з вялікім жалем паведамляе, што 20 ліпеня а 4-ай гадзіне 40 хвілін дню, памёр ад прыступу грудной жабы адзін з старэйшых бальшавікоў, сябра Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б) Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі.

Памёр стары бальшавік, вучань і саратнік Уладзімера Ільліча Леніна.

Нашу партыю, наш саюз, усю рабочую клясу і сялянства, усю нашу рабоча-сялянскую краіну наведала вялікае гора.

Тав. Дзяржынскі быў верным салдатам рэволюцыі, у самыя цяжкія дні барацьбы з контрэволюцыяй ён быў заўсёды на самых адказных мейсцах.

Ленінскі ЦК УсеКП(б) страціў аднаго з лепшых сваіх сяброў.

Рабочая кляса і сялянства, комсамол і ўся рабочая і сялянская моладзь страцілі свайго любімага правадыра, загартованага ў бойках за рабоча-сялянскую ўладу, за дыктатуру пролетарыяту, старога гвардзейца, бальшавіка, Ленінца.

Комсамольцы!

Шчыльней рады вакол партыі Леніна, вакол старое бальшавіцкае гвардыі.

Яшчэ больш працы над сабою, усе сілы, усю энэргію—на бальшавіцкую загартоўку сваіх шэрагаў, на ўзмацненьне справы соцыялізму і на ўсё тое, над чым працуе наша партыя, за што змагаўся т. Дзяржынскі.

Мы яго будзем помніць!

Моладзь, вучыся працаваць на прыгожым жыцьці, прыгожым прыкладзе тав. Дзяржынскага!

Няхай расьце і мацнее Ленінская Комуністычная Партыя!

**Цэнтральны Камітэт Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.**

Год выданьня II-гі.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!




№ 14 | Ліпень 1926 г. | Менск

С. Анціпенка.

# СПАГНАЛІ.

(*Апавяданьне*).

I.

На голым, а дзе-нідзе і зеленаватым ад пырнікавай травы, полі хадзіла чарада кароў. Авадні і мухі не давалі каровам спакою і яны злосна маталі сваімі кучмастымі хвастамі, адганялі заедзь. Залацістыя праменьні сонца проста падалі на зямлю і бяз жалю пяклі, засмуглы і бяз таго ад пылу, загарэлы твар Сымонкі, сямнаццацігадовага хлопца. Выцягнуўшыся на зямлі, Сымонка аб чымсьці думаў і думаў... І якія толькі думкі ня прыходзілі ў галаву гэтага худзенькага, загарэлага хлопца. Чамусьці ўспомніліся яму яго маці і бацька, успомнілася маленькая пакрыўленая хатка і сястра Алена і ўсё, усё ранейшае жыцьцё. Ён успомніў той страшны дзень, у які палякі запалілі маленькую пакрыўленую хатку, застрэлілі бацьку з маткай, якія йшлі супроць паноў і сумесна з чырвонымі змагаліся з палякамі.



„А дзе мая Алена? дзе мая маленькая сястра, з якой так добра я жыў?“

І зноў мільгануў успамін аб маленькай Аленцы, якая памерла без яды на вогнішчы сваёй хаткі... І ўсё, усё ранейшае жыцьцё праляцела ў галаве Сымона. Апамятаваўшыся ад сваіх думак-мараў, ён усхапіўся і пачаў з пугаю ў руках зганяць параскіданых па полі кароў.

Ужо вострыя сьветла-залацістыя праменьні сонца хаваліся за высокі ўзгорак ля вёскі Зацішша. Тады Сымон сабраў сваю чараду і пагнаў да хаты.



...Сымонка аб чымсьці думаў, і думаў...

Вёска хілілася да сну. Вакол усё ціха. Прырода замерла. Паказаліся першыя цьмяныя зоркі.

На прызьбе Навумавае хаты, утаропіўшыся вачыма ў зямлю і абапёршыся на далоні сваёй кучмастай галавой, сядзеў пастух Сымон. І зноў усплылі думкі аб мінулым жыцьці: жыцьцё за бацькамі, два гады ў школе...

— Эх, калі-б жылі мае бацькі, мо' і яшчэ вучыўся-б я? А цяпер? Цяпер бедны я... цяпер я бяспрытульны... застануся такім на ўсё сваё жыцьцё...— І буйныя горкія сьлёзы закапалі з вачэй Сымона на прытоптаную зямлю прызбы Навумавае хаты. Ня было нікога, хто-б пашкадаваў сірату-Сымона.

І беглі дні Сімонавага жыцьця, як вада ў рэчцы.

II.

Ціхімі хвалямі пераліваецца каламутная вада. На беразе рэчкі сядзела пара хлопцаў.—„Ну й пякота!“—гаварыў засмуглы Сымонка з такім-жа хлопчыкам, Язэпкам, з вёскі „Новы мір“, якая знаходзілася за 5 вёрст ад Зацішша. Яшчэ ў гады вучэньня пазнаёміўся Сымон з Язэпкам, які толькі быў таварышом яго, але жыў ад яго за пяць вёрст.

Язэпка быў аднагодак Сымонку. Дробны на выгляд, цікавы з твару і здольны да працы. Сядзеў ён зараз з Сымонкам і неяк сумотна і прыхільна глядзеў на яго. Ён добра ведаў жыцьцё Сымонкі і жадаў яму дапамагчы.

— Слухай, Сымонка,— прагаварыў Язэп,—ці будзеш ты мець час прыходзіць у нашу вёску адзін раз на тыдні?

— Чаму? на што?—быў адказ Сымонкі.

— Вось чаму, Сымон: ты—сірата, ты—бяспрытульны, ты ня маеш забясьпекі.

— А хто-ж мне дапаможа?

— Наша ячэйка комсамолу,—быў адказ Язэпкі.

І распачалася між імі гарачая гутарка, што такое комсамол, якія яго мэты, як склалася іхняя ячэйка і як ён сам год таму назад стаў у шэрагі яе. Талкова, сьвядома, без запінкі гаварыў Язэпка і нарэшце сказаў:

— Мы будзем змагацца з тымі, хто загубіў нашых бацькоў і старэйшых братоў, што змагаліся за справу працоўных!

Спакойна слухаючы дагэтуль, Сымонка неяк радасна з бліскучымі вачыма абхваціў Язэпку і сказаў:

— Ад гэтага часу я ваш. Я буду змагацца так, як змагаліся мае бацькі.

І тут-жа крывымі літарамі на каравым кавалачку паперы Сымонка напісаў:

У комсамольскую ячэйку вёскі „Новы мір".

Заява.

Прашу залічыць мяне сябрам вашае ячэйкі.

*Пастух, Сымон.* Вёска Зацішша.

Забраўшы гэтую заяву і дагаварыўшыся з Сымонам, каб у нядзелю прышоў да іх, Язэпка накіраваўся да хаты, а Сымон хутчэй пашоў абедаць, бо пара была ўжо гнаць у поле жывёлу, сонца зьвярнула з паўдня і пякота зьменшылася.

III.

Ляцелі летнія цёплыя дні.

Гаротны і засмучаны дагэтуль, Сымон цяпер неяк перарадзіўся. Ён зараз працаваў над сабою, пашыраў і паглыбляў свае веды, прыглядаўся да вакольнага жыцьця з мэтай змагацца за новае жыцьцё, каб апраўдаць назву комсамольца.

Будучы пастухом ён знаходзіў час і на тое, каб пагутарыць з моладзьдзю, штурхануць яе да новага жыцьця. Бяспрытульны і адзінокі дагэтуль, Сымон стаў асяродкам, навакол якога групавалася ўся маладзь вёскі Зацішша. Кожны вечар бяз угомы і яшчэ з большай бадзёрасьцю Сымон гутарыў з моладзьдзю аб новым жыцьці. Ужо чатырох хлопцаў, дзякуючы працы пастуха Сымона, увайшлі ў комсамол. Тады хлопцы паставілі мэтай залажыць ў вёсцы ячэйку комсамолу.

Разам з гэтай вялікай працай, Сымон прыглядаўся да жыцьця ўсяе вёскі і да таго кулацтва, прадстаўнік якога, Трахім Міронаў, кіраваў усёю вёскай, і да таго бязладзьдзя, якое панавала ў Зацішшы. Бедната была пад уціскам: сельсавет— у руках кулацтва. Вось тут і патрэбен быў Сымон і такая бядняцкая моладзь, якая-б асіліла вясковае кулацтва. Разам з замацаваньнем кулацкае ўлады, разам з панаваньнем кулацкага сельсавету, расла і замацоўвалася, на чале з Сымонам, ячэйка.

IV.

Ужо надыходзіла восень. Азімае поле пакрылася чырвона-зялёнаю руньню. Сяляне справіліся з працай. Надыходзіў дзень перавыбару сельсаветаў.

Ціха на вуліцы... Толькі дзе-ні-дзе вецер падымаў густы пыл і нёс яго кудысьці далёка па вуліцы. За ваколіцай Зацішша жалобна завываў асеньні вецер. Ужо кінуў Сымон пасьвіць кароў, ён зараз праводзіў больш вялікую працу. У хаце Трахіма Міронава быў чуцен гвалт і гоман сялян. Сёньня тут сход. Сабраліся, каб абраць новы кіруючы ворган,—новы сельсавет.

За сталом, у куце пад абразамі, сядзеў таўстапузы кулак, Трахім Міронаў, і пацішу гаманіў з такімі-ж кулакамі.

А ў гэты час Сымон, разаслаўшы ўсіх сваіх хлопцаў па вёсцы, заклікаў бядняцтва на сход, каб скінуць уладу кулакоў.

Хутка хата Міронава перапоўнілася. Міронаў падняўся з лаўкі, разгладзіў далікатна свае вялікія рыжыя вусы і сказаў:

— Брацьця, нам пара пачаць. Парадак дню: Справаздача і перавыбару с/с.

Разам з гэтымі словамі Міронаў сказаў:

— Па першаму пытаньню некалькі слоў скажа мой памоцнік і намесьнік—брат Кузьма.

Але Кузьма, заместа справаздачы, не ўстаючы з лаўкі, адказаў:

— Усё, што мы рабілі і як працавалі, аб гэтым знаюць тыя, хто выбіраў нас, як здольных у гэтай справе. Нам няма чаго гаварыць.

Кузьмовы словы ніколькі ня зьдзівілі прысутных, бо яны ўжо даўно прывыклі к гэткім справаздачам і маўчалі разявіўшы раты. Але сядзеўшы на лаўцы, у кутку ля дзьвярэй, засмуглы пастух-Сымонка раптам падняўся... Як адсякаў, гаварыў ён аб крутні кулацкага сельсавету. У момант паднялася Міронава рука і, нібы вялізны молат, стукнула па стале. Утаропіўшыся бліскучымі вачыма на Сымона, ён крыкнуў:

— Замаўчаць!..

Але нішто ня страшыла Сымона. І словы, якія даўно, нібы цяжкі камень, ляжалі на гаротным, засмучаным сэрцы, цяпер з вольнасьцю птушкі, ліліся з яго вуснаў. У канцы Сымон сказаў:

— Нам ня трэба кулацкая ўлада! Нам патрэбен бядняцкі сельсавет!..

І гучны крык:—Далоў! Далоў іх!—быў водгукам дзясяткаў галасоў беднаты.

— Вон з мае хаты, няшчасная галота! —зароў дзікім голасам Трахім Міронаў.

І разам увесь сход, за выключэньнем кулацтва, кінуў Міронаву хату і накіраваўся да Навума, каб абраць бядняцкую ўладу, бядняцкі сельсавет. За сталом у Навумавай хаце, сядзеў ужо ня кулак, а пастух-Сымон, які па жаданьню беднаты кіраваў бядняцкім сходам. Перш чым абіраць, Сымон растлумачыў ролю сельсавета, напрамак працы і хто павінен уваходзіць у яго. Разам з гэтым абралі новы кіруючы ворган вёскі Зацішша, у склад якога ўвайшоў і пастух-Сымон, як здольны працаўнік і абаронца беднаты.



Кулацкая расправа з пастухом-Сымонам

— Ну і Сымон, вось дык, Сымонка, маладцом хлопец! Ён дапамог нам выбрацца з капцюроў Трахіма!—з такімі словамі разыходзілася сялянства па хатах.

Настала ўжо і ноч... Усё замоўкла, толькі ў хаце Міронава ўсё яшчэ блішчаў агонь. Кулацтва аб чымсьці мяркавалася, аб чымсьці жыва гаварыла. Яно рабіла загавор на пастуха, Сымона.

V.

Ужо мінула восень. Настала студзёная зіма. Сымон, апрача працы ў сельсавеце, працаваў і ў комсамоле. Адзін раз у месяц ён хадзіў у вёску

„Новы Мір", каб абмяняцца вопытам працы ячэйкі. Марозны зімовы вечар. Блісkуча гарацъ зоркі на небе. Скрыпіць сьнег пад нагамі. З маленькай палкаю ў руках, у шэрым кажусе і ў такіх-жа портках, абуты ў лапці з белымі анучамі, ідзе па дарозе бадзёра, падняўшы галаву, смуглы, танкаваты, сярэдняга росту, хлопец—Сымон. Ён быў у вёсцы „Новы Мір" і йшоў да хаты. Думкі аб распачатай ім працы мітусіліся ў яго галаве. Разам перад вачыма ўстала арганізаваная ім ячэйка і тая моладзь, якая сумесна з ім будуе новае жыцьцё. З поўнай галавою думак Сымон і ня зглядзіў, як прайшоў ён поле і ўвайшоў у маленькія кусты алешніка, якія ляжалі за адну вярсту ад Зацішша. Толькі ціхі гоман абудзіў Сымона, толькі тут Сымон убачыў, што ён блізка ад хаты.

Але тут-жа раптам цяжкі ўзмах калом па галаве пахіснуў Сымона. Неяк цяжка, нібы падрэзанае дрэва, ён зваліўся ў мяккія гурбы сьнегу, ў бок дорогі. Зялёна-сінія кругі замітусіліся ў вачох яго. Тры істоты стаялі перад яго вачыма:

— Га, Комсамолія!.. Сельсавет!.. кулацтва... папаўся?...

І толькі тут Сымон заўважыў Міронава і двох яго сяброў.

— Я пачаў—яны закончаць!—сабраўшыся з апошнімі сіламі, прагаварыў Сымон. Другі ўзмах калом па курчавай галаве заглушыў Сымонавы словы. Пырснула кроў з расколатае галавы яго, а расчыненыя рот і вочы гаварылі:

— Я пачаў—яны закончаць!...

# На новым шляху.

(*В. Сяргеевічы, Шацкага раёну, Меншчына*).

Каму прыходзілася, хоць калі, ехаць са станцыі Рудзенск да мястэчка, а зараз раёна, Шацка, той добра ведае, што значыць пераехаць праз вёску Сяргеевічы, асабліва ўвесну.

Сярод вуліцы гразь па калена, якую быдла ўранку і ўвечары мясіла штодня.

На абапал вуліцы равы, поўныя ня чыстай вады, з зялёнай, плесьнявай, сьмярдзючай юшкі, у якой качаліся сьвіньні ды, хіба, пасьля дажджу, купаліся свойскія качкі.

Усё гэта было дадаткам да тае няхайнасьці, якая бывае ў нашых вясковых беларускіх хатах.

Нельга было схадзіць ні па воду, ні да суседа, ні проста праз вуліцу перайсьці, каб не набраць па калені гразі.

Але гэта было...

Сёлета стараньнем перадавых сялян і сельрады в. Сяргеевічы зрабіла вялікі крок наперад. Параіліся сяляне і сказалі сабе: „да будзе суха" і „стала суха"...



Сяргееўцы за працаю.

Фурманкі адна за другой вязуць вясной у поле гной—з поля каменьне, пясок. Палеткі ад камяніцы ачышчаюць, і ў вёсцы брук кладуць.

Люба, прыгожа і прыемна ня толькі праехаць, або прайсьці цяпер праз вёску, але нават зірнуць на яе.

Роўна падагнаныя, пасярэдзіне з невялічкім узвышшам, а па баках са стокамі цягнецца каменны брук, на абапал якога стаяць сівенькія хаткі і, як-бы зьдзіўлена, пазіраюць на тое, што творыцца на вуліцы.

* * *

Якая вялікая розьніца паміж старой і новай вуліцай, і як шмат карысьці ад новай брукаванай вуліцы!

Трэба толькі рашучасьць, энэргія, імкненьне і тады толькі магчыма парваць, паламаць старыя традыцыі ды з гразі вылезьці на сухую брукаваную вуліцу.

* * *

Гумнішча. На гумнішчы ўзгорак. На ўзгорку яліна, высокая, гольлі толькі ўгары. А на елцы надта дзіўная... жэрдка (таксама высокая), а ў самым версе — чырвоны сьцяг. Вецер дзьме і сьцяг хвалюецца ў паветры... Дзіўна... на якое яно тут ліха?.. у глухой вёсцы...

...Не разумелі, ня верылі, не спадзяваліся і раптам—на табе: зойдзеш у хату, надзенеш нешта на вушы і адкуль толькі што бярэцца! і сьпевы, і гутарка, і музыка, і на нашай мове, беларускай, і на расійскай, і на нейкіх незразумелых...

Прыдзе які небудзь стары, паслухае як сьпяваюць у Менску або ў Маскве, ды хутчэй дадому,— цягне жонку, дзяцей: хай і яны паслухаюць.

Радыё—рэч досыць простая, а для вёскі дзіўная і незразумелая, а ўсё-ж такі прасунулася яно і туды.

Дзіўна?!.

А дзіўнага няма нічога. Дзеля гэтага-ж адбылася і перамога працоўных у Кастрычніку.

**Юрка.**

**П. Глебка.**

# Ліст у вёску.

*Прысьвячаю М. Трус.*

Задумаюся... і спахмурнеюць бровы,
і зорны зірк рассыплецца з вачэй...
Успомню лес, гаі, дубровы,
успомню ўсё, а сэрцу не лягчэй.
І любы вобраз, даўно мінулы,
стаіць перада мною, як жывы...
Бяру пяро, — хай словы там пачуюць,
як я тут чую звон травы.

* * *

Марыля любая, ці помніш?..
Ці ты ўсё-ж тая, што й была?
Ці сад цьвіце?—а ён-жа помнік
таго, як ты калісь жыла.
Бывала—помню—ты на пожні
хапаеш вузкі шнур дажаць,
а лес пунсовасьцю прыгожы
засьцеле шэрая імжа.
Далёка здесь, аж за узгоркам,
начлег наладзіў карагод;
лагчынай дым паслаўся горкі,
а ты бяжыш у клюб на сход.
Цябе чакаю я ў прысадах...
хустынька белая мільгае...
Узыходзіць месяц па-над садам
і ціха дзесь жалейка йграе.
Бягу насустрач, ты з усьмешкай
растрэплеш кудры мне рукой.
Бялявы месяц на узьмежку
траву апырсквае расой.
Калі-ж зімою ды за гаем,
(а гай у шэрані цьвіце),
далёка сонца патухае,
на белы сьнег кладзецца цень,—
накінеш ты тады на плечы
звычайны, просты кажушок
і сядзеш прасьці на ўвесь вечар
кудзелю белую, як шоўк.
Мо' ты ня помніш вечарніцаў,
а я—забыцца не магу!
Прадзеш ты позна да зарніцы
на бок схіліўшы галаву,
а я чытаю ў голас кніжку.
На небе ўзыйдзе маладзік,
у сінь сьнягоў зьбягаюць зьнічкі,—
ня знаць ім радасьць маладых!
Шчэ' помню вечар—у тумане
прысады сыпалі расу,
ірзалі коні на паляне,
ты йшла сьплятаючы касу.
Зара над гаем дагарала,
губляўся ў далях сіні шлях.
Ты правяла мяне да гаю
і ціха зноў назад пайшла.
А я пайшоў у даль за вёску
спазнаць жыцьця бурлівы вір,
каб там, дзе вузкія палоскі,
жыты прыгожа зацьвілі.
Ня ждаў, што ў хвалях срэбра-звонкіх
жыцьцё і бруд яго плыве;
ня ждаў, што сьцені ходзяць вонках,
як хвалі зыбкія ў траве.
Затым цябе я змог забыцца...
Спаткаў другую... пакахаў...
Згубіў у туманах сваё выйсьце...
Ну, што-ж?.. Няхай... Няхай...
Я веру моцна, веру шчыра
(хоць мо' ня зьлічыш тыя дні)
ня я—дык іншыя, другія
запаляць вечныя агні.
Не адцьвіце ў зарніцах неба,
не адцьвіце зялёны гай,
і толькі вочы ў журбе па вербах
патухнуць хутка—дагараць...
І толькі волас, русы волас,
спадзе срабрыстасьцю на лоб.
Ці я стары?.. Ці мне здалося?..
Сяло маё... маё сяло!
Ці так даўно ў зялёны пушчы
ганяў на ранак чараду?
Ці так даўно маленькіх гушкаў,
хадзіў на рэчку па ваду?
Ці так даўно хадзіў за плугам?..
А дзе цяпер мой чорны конь?
І дзе каса, з якой над лугам
ссыпаўся іскрамі стазвон?
Мо' конь пасецца на прывольлі,
спусьціўшы грыву да зямлі,
а мо' вятры у чыстым полі
пяскамі косьці замялі.
Каса-вілейка заржавела,
на лузе болей ня зьвініць...
Эх, кудры, кудры мае белы,
ды буйнай моладасьці дні!
Не адцьвіце ў зарніцах неба,
не адцьвіце зялёны гай!
Я знаю, што ў жыцьці нам трэба—
ня зьвісьне долу галава.
Я знаю—толькі ты кахала
усёй душою, дык—даруй:
ня знаю болей дзён бывалых—
вяскоўку простую люблю.
Бо тая сьлёз не пралівала,
кашулі зрэбнай не насіла,
а ты, як я—нядолю знала,
ня раз ад крыўды галасіла.

. . . . . . . . . . . .

Мы разьвіталіся папросту:
ты аж да лесу правяла.
З бяроз спадалі сьлёзы-росы,
у ветрах шастала трава.
Чакай, Марыля, я прыеду,
калі адцьвітаюць сады,
калі красуе жыта—летам,—
я зноў прыеду маладым.
З таей травы і сьлёз крыштальных
сплятом з табою мы вянок;
ды тым узложым, што паўсталі
за новы цьвет,—каб цьвіў пясок.
Хоць мо' жыцьцё на жвір пасьцелем,
хоць мо' і сэрца накалю,
а больш ня будуць слацца цені,
ня лягуць змрокам на зямлю.

# Сонца і мора.

(*Крымскія малюнкі*).

Севастопаль—апошняя станцыя паўднёвай чыгункі, што перарэзвае на дзьве аднолькавыя часткі Крым—прыемна і ласкава прымае перапоўненыя рознымі пакункамі, скрынкамі, чамаданамі і людзьмі „паўночныя“ цягнікі.

Калі змораны вялікай дарогай паравоз выскачыць з апошняй і самай вялікай тунэлі, прабяжыць па крутых абрывах жоўта-белых гор—так багатых будаўнічым ікерманскім каменьнем—прад вачыма новых людзей, якія едуць мо' першы раз у краіну сонца, мора і гор, адчыняецца прыгожы далягляд на Севастопальскую затоку, запоўненую параходамі, караблямі чужых краін, што прыехалі па Савецкі тавар, рознымі кацерамі, ялікамі, плывучымі агромністымі ліфтамі [1]).



На станцыі і ў станцыі—жытнёвае поле людзей.

Розныя агенты і камісыянэры „дапамагаюць“ парадамі, дзе лепш застанавіцца, як туды заехаць, на чым, колькі каштаваць будзе, ці багаты морскія і горныя прыгоды...

Тыя, хто прыехаў з пуцёўкамі, зараз-жа паказваюць іх прадстаўнікам устаноў, куды яны накіраваны і іх дастаўляюць да месца.

Хто прыехаў сам ад сябе—распытвае, улажваецца, плаціць і ад'язджае...

Аўтомобілі старанна бегаюць, старанна адвозяць прыезджых, стараюцца зрабіць больш рэйсаў, каб больш „падзарабіць“.

* * *

У Крыму часта бываюць дні, што цэлы дзень не пабачыце на небе ні драбнейшай хмурынкі. У такія дні—вялікая сьпякота. У такія дні пляжы—месцы прыгодныя для добрага купаньня, з няглыбокім пясчаным дном—кішаць людзьмі, як у мурашніку мурашкі.

Як прыгожа, здорава, раздольна!...

Прыходзіць марак... Разьдзяваецца... Любуецца сваім целам бронзавага колеру, моцнымі мускуламі, зробіць пару вольных рухаў, узлазіць на высокі абрыў або на дашчатую пляцоўку, спэцыяльна зробленую для гэтага, і ляціць адтуль—сажняў пяць зьверху—галавою ў мора, пакрываецца кругамі цёплай морскай вады і выплывае ў другім месцы, на вялікай адлегласьці ад таго пункту, дзе кідаўся.

[1]) Машыны, пры дапамозе якіх падымаюць вялікія грузы з дна мора.

Дужыя рукі марака павольна горнуць пад сябе воду і прыгожа загарэлае цела шпарка плыве далёка-далёка ў мора.

Прыезджыя плёхаюцца каля берагу і сочаць за тымі, каго ад далячыні і морскіх хваль цяжка бачыць...

А марак паплыў, толькі голас звонкі вясёлы даносіцца да берагу...

Заўважыла сярэднята росту дзяўчына, чырвонашчокая, з русымі валасамі. Скінула з сябе верхняе адзеньне, аддала таварысцы, а сама ў спорцмэнцкім касьцюме—боўць у мора, і ў дагонкі за мараком.

Погляды ўсіх накіраваліся на яе... Жыцьцярадасны галасок фізычна моцнай дзяўчыны прымусіў марака застанавіцца і пачакаць... І яны плывуць разам, адно каля другога... У музыцы гудкоў, выкрыкаў аздаравеўшых ад лячэньня ў Крыму людзей, зьвініць вясёлае разьвітаньне паплыўшай дзяўчыны з сваёй сяброўкай:

— Досвидание, Мурочка! Боль-ше-е не-е-у-ви-ди-и-м-ся!

Мурачка ўсьміхаецца і матае хусткай...

Сонца і мора! Мора і сонца!

Як здорава адчуваеш сябе, калі пасьля купаньня ў салёнай вадзе падставіш цела сонечным пацалункам! А пацалункі—шчырыя пацалункі. Ад аднаго пацалунку—цела робіцца чырвоным, а ад двух—і скура адстае.

Але яе ня шкода, бо нарастае другая, дужая, загартаваная крымскім сонцам.

Аб прыгожасьці мора, аб ухмылках яго жыцьця вядомы расійскі поэта Надсон пісаў:

— Так вот оно море... Горит бирюзой,
Жемчужною пеной сверкает!
На влажную отмель волна за волной
Тревожно и тяжко взбегает...
Взгляни, он живет, этот зыбкий хрусталь,
Он стонет, грозит, негодует...
А даль-то какая! О, как эта даль
Усталые взоры чарует!
Сын края метелей, туманов и вьюг,
Сын хмурой и бледной природы,
Как пылко, как жадно я рвался на юг,
К вам, мерно шумящие воды...

**Зьм. Жораўскі.**




# Да новага жыцьця.*)

## Драма ў 2-х актах.

### АКТ II.

(Панскі сад. Кругом ціха, толькі сьпяваюць птушкі. Заслона адчыняецца. На сцэнэ Алеся).

### Зьява I

*Алеся* (глядзіць ва ўсе бакі): А яе яшчэ няма. (Сьвішча). Ганна, а Ганна! Няма яе—трэба пачакаць. (Садзіцца). О, як цяжка, ногі і галава баляць. Нічога ня шкода, каб толькі, здаецца, хутчэй вызваліць бацькоў, якія сядзяць ў няволі. (Паўза). А мо' яна зусім ня прыдзе, мо ня можа вырвацца, бо яна-ж, бедная, сядзіць у няволі. Але нічога, хутка для ўсіх нявольных узыдзе сонца! (Чутны шагі). Мусіць, яна ідзе.

### Зьява II

*Ганна* (уваходзіць, адзета прыгожа, але сумная): Алесячка, ты даўно тут?

*Алеся*: Я тут ужо даўно. Я цябе чакала, чакала, хацела дамоў ужо йсьці, думала ня прыдзеш. (Садзіцца).

*Ганна*: Алесячка, што чуваць, ці хутка настане час вызваленьня.

*Алеся*: Хутка і вельмі хутка настане той час!..

*Ганна:* Алесячка, як цяжка, я не магу жыць, не магу... Я баюся яго, а б'юць-жа мяне, ты бачыш (паказвае раны на руках). Алесячка, ты ведаеш, што я яго атраўлю, хай ён, гадзіна, навек засьне, а я буду тады на прасторы.

*Алеся:* Ганначка, што ты! Не рабі гэтага. Я веру, што табе цяжка, што ты яго ненавідзіш, цябе б'юць. Але цярпі, цярпець ня доўга. Даволі аб гэтым гутарыць, бліжэй да справы, а то нас могуць застаць. Слухай: вось, гэтыя паперы ты павінна аддаць парабкам (дае паперы). А гэта табе (дае ліст).

*Ганна:* Што гэта?

*Алеся:* Ліст ад Васіля, хавай каб не заўважылі яго... (З-за дрэў глядзяць палякі, высоўваюць галовы і прыслухоўваюцца). Цяпер скажы мне, што чуваць, ці многа тут палякаў, дай пэўныя весткі.

*Ганна:* Палякаў тут ня многа, а зьдзекаў над сялянамі не пакідаюць: рэжуць мяса, солью пасыпаюць... вось і ўсё. А што ў лесе чуваць, ці многа хлопцаў прыбыло?

*Алеся:* Хлопцаў прыбыло многа і кожны дзень прыбываюць з вёсак і мястэчак ды такія адважныя хлопцы, што гатовы йсьці на барацьбу хоць цяпер.

*Ганна* (уздыхае): Эх, каб здаецца я там была.

*Алеся:* Ну, Ганна, бывай, мне трэба йсьці, там чакаюць. (Ідзе).

### Зьява III

*Ганна* (раскладвае паперы): Што піша Васілек? (З крыкам убягаюць палякі, хватаюць паперы; Ганна выхватвае з рук паперы і бяжыць, хаваецца ў садзе, палякі бягуць за ёю, але ня бачаць ужо Ганны. З-за дрэў паказваецца Волька).

*Ганна:* Сястрыца, на паперы і ўцякай! (Кідае паперы, Волька хватае і бяжыць. Палякі даганяюць Ганну і ловяць яе).

*Ганна* (сьмяецца): Вось я вас падманула, вы думалі сапраўды, што ў мяне ёсьць паперы—ха-ха-ха... (Паказвае паперку, якую падняла з зямлі. Паперка чыстая). Вось навучыла. (У бок). Дзякуй табе, Волячка, што якраз наскочыла, а то-б жыцьцём заплаціла.

*1-ы паляк:* А што тут за дзяўчына, была што паперы трымала.

*Ганна:* А гэта да мяне прыходзіла сястра даведацца, а паперы я трымала, вось, гэтыя, што і цяпер трымаю.

*2-і паляк:* А мо' другія? Глядзі!..

*Ганна* (ласкава): Садзецеся, пагутарым трохі, мне адной вельмі сумна, як быццам у турме.

*2-і паляк* (ціха другому): Якая прыгожая, як анёлачак!

*1-ы паляк:* Праўду ты кажаш.

*Ганна* (у бок): Зьвяры вы, крывапійцы!

*2-і паляк:* Ну, як нашай вяльможнай пані ў двары жывецца?

*Ганна* (уздыхае): Жывецца як мне? Дык вы самі ведаеце, ці-ж можа жыць птушка, якая сядзіць у клетцы?

*1-ы паляк:* Панначка, што вы, вы квітнееце, як гэтая кветка, што тут расьце...

*Ганна:* Ці-ж ня вы мяне, вось, гэтай нагайкай катавалі і яшчэ пытаеце, як я жыву?

*2-і паляк:* Панначка, гэта-ж ня ў нашай воле, а ў панскай.

---

*) Гл. „М. А.“ № 13.

*Ганна* (у бок): Як цяжка, сэрца хоча волі, барацьбы. (Да палякаў). Як сумна тут.

*1-ы паляк:* Я загадаю хай музыка грае (выходзіць). Гэй, музыка, псякрэў, іграйце! Раз, два, тры! (Музыка паволі пачынае йграць, паляк уваходзіць да Ганны).

*Ганна* (у бок): Галодныя, халодныя йграюць, бо панскі прымус...

*2-і паляк:* Ну, што вы прыціхлі, як быццам паўміралі! Нашы браты прывыклі быць вясёлымі, калі другія сумуюць. Гуляй, пакуль гуляецца, бяду і гора—нашым ворагам!

*Ганна:* Вам, зьвярам!

*1-ы паляк:* Пойдзем паскачам. (Да Ганны ласкава). А, панна, з намі паскачаш?

*Ганна:* Ды дзе мне мужычцы павашаму, далікатнаму скакаць!,

*2-і паляк:* Нічога, патрапім.

*Ганна:* Не, не хачу, хай музыка перастане йграць. Мне трэба йсьці.

*1-ы паляк:* Музыка, даволі. (Музыка сьціхае. Палякі сьпяваюць: „Яшчэ польска ня згінела". Выходзяць).

З ь я в а IV

*Ганна* (аглядаецца): Пашлі ўжо, зьвяры ненаедныя. О, як я перапалохалася. Каб мяне злавілі з паперамі, усіх-бы хлопцаў пералавілі! Але нічога, усё зышло гладка. (Паўза). І чаму так доўга няма Васіля, пісаў-жа, што прыдзе, не магу дачакацца. Як тут страшна, усюды ціха. (Прыслухоўваецца). Птушкі пакінулі сьпяваць, дрэвы нібы сьпяць. (Паўза). Нікога няма, мусіць, ня прыдуць, трэба йсьці. Ужо хутка сонца ўзыдзе. Чу-чу-чу, што гэта, як быццам нейкія зыкі да вуха даносяцца. (Прыслухоўваецца, за садам чуваць сьпеў дзяўчат). Нейкія салодкія зыкі, якім дужа аддаешся. (Сьпевы памаленьку заміраюць). А, гэта сьпевы прыгонных жнеяк; як-бы мне хацелася з вамі пасьпяваць на волі!

З ь я в а V

*Волька* (ціха падыходзіць да Ганны): Сястрыца!

*Ганна* (спуджана): Ай, ай, хто тут!?

*Волька:* Ня пужайся. Я прышла паглядзець хто тут.

*Ганна:* Адна я, болей нікога няма. Прысядзь.

*Волька:* Няма часу сядзець.

*Ганна:* Дзе ты, Волечка, дзела паперы.

*Волька:* Я іх аддала каму яны належалі. Ну, трэба йсьці, я скажу, што нікога няма, апрача цябе. (Сьпяшаецца).

*Ганна:* Каму ты скажаш?

*Волька:* Васілю. (Выходзіць).

*Ганна:* Васілёк прыдзе, дачакаюся даражэнькага! Трэба абгледзець мо' хто ёсьць (разглядвае), не, нікога няма, усюды ціха. Але чаму ён гэтак позна, чаму прымусіў мяне так доўга чакаць. Эх, жыцьцё, жыцьцё і калі ты выйдзеш на шлях лепшай долі. (Чуваць сьвіст, Ганна адказвае сьвістам. Уваходзіць Васіль у шынэлі з рэвольвэрам за поясам, бялявы. Ганна кідаецца на шыю к Васілю). Васілька, даражэнькі. (Плача).

З ь я в а VI

*Васіль:* Ціха, Ганна, ты забылася, што нас могуць злавіць. Пакінь, я ня прышоў слухаць, як ты плачаш, а прышоў з вялікай справай. Пакінь!

*Ганна:* Васілёк, дазволь мне паплакаць, мо' гэта апошні раз.

*Васіль* (спуджана): Ганначка, што ты (бярэ за руку), чаму апошні раз, гавары хутчэй, ня муч мяне, няўжо ты мяне ўжо ня любіш?

*Ганна:* Васілёк, міленькі, я цябе люблю, але... (Плача). Я ў няволі, мяне забраў пан. Я не хацела аддацца яму, паскудніку, крывапійцу, але мяне забралі гвалтам, а цяпер... Няўжо ты мяне будзеш любіць? (Паўза). Ты маўчыш... Васілёк, я цябе ня віню, бо і другі на тваім месцы быў-бы ня лепшы. Хай-бы тады, калі мяне бралі, усадзіла-б я сабе нож у грудзі, чым здавацца, хай-бы стала лепш ахвярай ад яго рукі... Я згубіла дарагога, блізкага да майго сэрца чалавека, а аддалася пану-зьверу, які мяне ў кожную гадзіну можа кінуць галодным зьвяром. Кім я стала? (Плача).

*Васіль:* Ганначка, дарагая, ты сваімі словамі кранула маё сэрца, ты як-бы сольлю пасыпала набалеўшыя раны і я вельмі дзякую, што ты не аддалася хоць сэрцам пану. Ты вельмі памыляешся, што я цябе не кахаю. Ганначка, ці магу я цябе забыць!? О, не! Каханьне ў маім сэрцы расьце ўсё больш, ня гледзячы на тое, што ты ад мяне далёка. Ты была маёю і будзеш. Я пану адплачу за пралітую кроў нявінных людзей. Хутка настане канец іх панаваньню, А ты запомні: „Надзейся"



Дзяўчата займаюцца фізвыхаваньнем.

Ганначка, доўга я тут быць не магу, бо час барацьбы надыходзіць. Я прышоў сказаць табе, што як пачуеш трывогу, то хавайся тут у садзе і сьцеражыся, а там, як прагонім паноў, я прыду сюды з таварышамі, а нас многа. І вось мы сёньня выступаем...

*Ганна*: Васілёк, чаму так хутка, пабудзь яшчэ трохі, дай паглядзець на цябе, бо маё сэрца нешта ня добрае чуе?

*Васіль*: Дарагая мая, калі мяне заб'е паганая куля, то ці шкада жыцьця нашаму брату? О, не! але колькі гаротных сялян ад сьмерці адкуплю, усе прыгнечаныя ўбачаць сонца волі. А мо' й застануся ў жывых, то тады мы будзем разам шчасьлівыя. Сотні тысяч людзей выйдуць на шлях лепшай долі.

*Ганна*: Так то яно так, але калі цябе заб'юць, я цябе патрачу, што я буду варта? Шчасьце згіне назаўсёды.

*Васіль*: Ха-ха-ха, якое ты дзіця, нашто табе ўгадваць, што будзе.

*Ганна*: О, не! Ідзі змагацца за лепшае жыцьцё, але і я з табою пайду, уцяку адгэтуль, пайду змагацца...

*Васіль*: Там цябе могуць забіць, я цябе ня пушчу са мной, хай гэты сад хавае цябе. Ну, бывай, помні мае словы, я пайду здабываць свабоду! Бывай! (Доўгі пацалунак, Васіль выходзіць).

З ь я в а VII.

*Ганна* (задумёна): Ён мяне пакінуў і мо' назаўсёды. Можа яго заб'юць, а мо' наша шчасьце ізноў зазьзяе, мо' выйдзем на шлях лепшага жыцьця: будзе свабодна, ня будзе зьдзекаў і нявінных сьлёз. О, свабода, дарагая! (За садам чутна музыка). Музыка нявольная, хутка і ты выйдзеш на шлях лепшай будучыны. (Відаць пан, які накіроўваецца да Ганны).

З ь я в а VIII.

*Пан*: Дзень добры, панна Ганна! (Садзіцца каля Ганны). Ну, кветачка, не казаў я табе, што ў мяне будзе ляпей.

*Ганна*: Добра, няма чаго казаць, а гэта што? з дабра? (Паказвае сінякі).

*Пан* (сьмяецца): А, гэта падарунак (абнімае яе).

*Ганна*: О, як цяжка трымаць на плячох твае гадкія рукі! (Да пана). Пусьцеце мяне, мне кепска...

*Пан*: А я маю права, ты ведаеш! (Хоча пацалаваць).

*Ганна*: Прэч ад мяне! Цьфу! Мне цяжка глядзець на цябе, зьвер, крывапійца! (Вырываецца).

*Пан*: Што... што я чую.

*Ганна*: Тое, што заўсёды чуеш ад мяне:

*Пан* (ласкава): Панна Ганна, я цябе люблю і ты мая...

*Ганна*: Ты мяне ў бацькі ня купіў, што я твая. Я тваёю ня была і ня буду, ты мяне забраў гвалтам, бо была твая панская воля. Цяпер—ты сабака, якога трэба задушыць. (Стрэлы, трывога, сыгналы).

*Пан*: Што гэта? бальшавікі? як яны асьмеліліся!?

*Ганна*: Свабода вялікая йдзе, час вольнага жыцьця і вызваленьня! (Стрэлы бліжэй чуваць). Васілёк, мо' наша цяпер зазьяе зорка шчасьця. Мы пойдзем разам разрываць кайданы няволі. (Уваходзіць Волька).

З ь я в а IX.

*Волька*: Сястрыца, пайдзі глянь, што чуваць у маёнтку і напішы пэўныя весткі. (Ганна выходзіць). О, як цяжка цяпер, але йдзе вызваленьне, даволі зьдзекаў. (Сядзіць моўчкі, Ганна прыходзіць з паперамі).

*Ганна*: На табе пэўныя весткі (Дае паперы. За садам страляніна перамешваецца з крыкамі: „ура!" Відаць чырвонае неба). Што гэта? гэта помста паноў, яны падпалілі хаты сялян, апошні раз напіваюцца сялянскаю кроў'ю. (Глядзіць на пажар). Зьвяры, крывапійцы, помста вам! Васілёк, даражэнькі, мо' скора ўбачу цябе; мы пойдзем разам будаваць новае жыцьцё. (Страляніна. Цераз сад бягуць паны, адзін за адным, кідаюцца адзін цераз аднаго. Бяжыць поп, хрысьцячыся).

*Поп*: Ай, ай, Езус Сьвяты... (Бяжыць і аглядаецца ў бакі. Бяжыць паляк, перакідваецца цераз пана, поп усхватваецца і ўцякае. Ганна стаіць воддаль).

*Ганна*: Воля дарагая, новае жыцьцё! (З-за дрэў выглядае пан з рэвольвэрам у руцэ. Ганна яго ня бачыць).

*Пан*: Не, я цябе не пакіну бальшавікам! Умірай-жа тут!

*Ганна* (паварачваецца і бачыць пана): Ай, ратуйце, ратуйце! Васілёк дарагі! (Пан страляе, Ганна кідаецца на лаўку, хватаецца за грудзі. (Ох! уміраю, уміраю! (Задыхаецца. За садам чутны сьпевы „Інтэрнацыяналу", відаць чырвоныя сьцягі. Першым уваходзяць Васіль, Волька, Алеся, чырвонаармейцы і сяляне).

*Васіль*: Ганна, ты ня хочаш спаткаць нас, вітаць нас з перамогаю?! Ганна, ты сьпіш, утамілася, бедная! (Будзіць Ганну). Ганна, а Ганна! што з ёю? (Падбягаюць другія).

*Ганна* (слабым голасам): Я паміраю вітаючы вас з перамогаю.

*Усе*: Што такое? Памірае. (Некаторыя плачуць).

*Ганна*: Паміраю... (Аднімае ад грудзей хустачку у крыві). Пан страляў у мяне....

*Васіль* (садзіцца каля Ганны): Ганначка, няўжо ты нас пакідаеш... Разьбіваеш маё шчасьце... Ганна, ты бачыш, мы здабылі сабе волю!

*Ганна*: Васілёк дарагі.... даруй, я вас пакідаю... як я рада, што паміраю на свабодзе, на тваіх грудзёх.... (Паднімаецца, кідаецца на шыю к Васілю і памірае).

*Волька*: Сястрыца! дарагая! што ты робіш, ты пакідаеш нас. (Плача).

*Васіль* (кладзе Ганну на лаўку): Маё шчасьце назаўсёды зьнікла. Разьбітае маё жыцьцё. Эх! крывапійцы, гады! вы маё шчасьце забралі. Эх! зьвяры! Зьвяры. (Уваходзіць маці).

З ь я в а X.

*Маці* (ломіць рукі): Дачушка дарагая! Залатая мая, што ты робішь, на што ты нас пакідаеш (трасе яе). Прачніся! прачніся! адчыні апошні раз свае вочкі. Чаму ты мяне не паслухаеш? (Усе плачуць).

*Алеся*: Васіль, даволі плакаць, сьлязьмі не паможаш гору. Яна памерла за вялікую справу працоўных. Памяць аб ёй у нас застанецца назаўсёды. Магілы твае мы не забудзем і над ёй высока ўзьнясем тваёй кроўю абліты чырвоны сьцяг!!!... (Ганна ляжыць, бялявая, валасы распушчаныя, над ёю схіляюць чырвоныя сьцягі і сьпяваюць пахаронны марш).

**Л. П.**

(*Канец*).

# Аб беларусізацыі ў ЛКСМБ.

„Комуністычная партыя ў аснову сваёй політыкі па нацыянальнаму пытаньню палажыла права нацый на самавызначэньне, права народаў на самастойнае дзяржаўнае існаваньне. Яшчэ ў першыя дні свайго існаваньня, на 1-ым зьезьдзе (у 1898 г.), калі супярэчнасьці нацыянальнага пытаньня не пасьпелі яшчэ вызначыцца з выстарчаючай яснасьцю, партыя прызнала за нацыяй гэтае неад'емлемае права“ (пункт 4-ы рэзолюцыі 12-га зьезду РКП па нацыянальнаму пытаньню).

Што такое нацыянальнае пытаньне?

„Клясавая сутнасьць нацыянальнага пытаньня,—кажа дакладчык па нацпытаньню на 12-м зьезьдзе РКП, тав. Сталін, — заключаецца ў азначэньні ўзаемаадносін, — я кажу аб нашых абставінах, савецкіх, — у азначэньні правільных узаемаадносін паміж пролетарыятам быўшай дзяржаўнай нацыі і сялянствам быўшых уціснутых нацыянальнасьцяй“.

„Калі пролетарыяту ўдасца ўстанавіць з іншанацыянальным сялянствам адносіны, якія змогуць падарваць усе перажыткі няверра да ўсяго расійскага, якое дзесяцігодзьдзямі адбудоўвалася і ўкаранялася політыкаю царызму, калі расійскаму пролетарыяту ўдасца, больш таго, дамагчыся поўнага ўзаемнага разуменьня і даверра, устанавіць сапраўдны саюз ня толькі паміж пролетарыятам і сялянствам расійскім, але паміж пролетарыятам расійскім і сялянствам іншых нацыянальнасьцяй, дык задача будзе вырашана“.

Гаспадарча - культурнае адраджэньне нашага беларускага краю магчыма пры тэй умове, калі да ўдзелу ў дзяржаўным жыцьці і савецкім будаўніцтве будуць прыцягнуты шырокія колы працоўных Беларусі.

Кажучы словамі таварыша Сталіна, трэба: „для таго, каб Савецкая ўлада была і для не нацыянальнага сялянства роднаю, неабходна, каб яна працавала на роднай мове, каб школы і органы ўлады будаваліся з людзей мясцовых, якія ведаюць мову, правы, звычаі, быт“.

„Толькі тады,—кажа далей тав. Сталін,—і толькі пастолькі Савецкая ўлада, да апошняга часу якая зьяўляецца ўладаю расійскаю, стане ўладаю ня толькі расійскаю, але і інтэрнацыянальнаю, роднаю для сялян, раней уціснутых нацыянальнасьцяй, калі ўстановы і органы ўлады загавораць і будуць працаваць на роднай мове. У гэтым адна з асноў нацыянальнага пытаньня наогул, у абставінах савецкіх у прыватнасьці“ (з дакладу тав. Сталіна на 12-м зьезьдзе РКП 23-га красавіка 1923 г.).



Урадзіла жытцо, буйнае, важкое!

Правядзеньне нацыянальнай політыкі наогул і беларусізацыі ў прыватнасьці займае важнейшае месца ў агульнай працы комсамола Беларусі.

Складаны нацыянальны пераплёт, які маецца ў нас, у Беларусі, выклікаў і выклікае неабходнасьць самых уважлівых адносін з боку кіраўнічых саюзных органаў да практычнага ажыцьцяўленьня нацыянальнай політыкі ў Комсамоле.

З 45.544 сяброў ЛКСМБ 30.899, або 67 проц. агульнай колькасьці, у нашай організацыі складаюць беларусы.

Дзейнасьць шэрагу ячэек, райкомаў і акругкомаў ЛКСМБ пераведзена на беларускую мову.

Актывістыя, у тым ліку і гарадзкія, ужо ня топчуцца на месцы, а панастаяшчаму, сур'ёзна ўзяліся за вывучэньне беларускай мовы.

Як на мясцох практычна ажыцьцяўляецца беларусізацыя ў комсамольскіх організацыях?

Так, напрыклад: у Калінінскай акрузе праца організацыі поўнасьцю пераведзена на беларускую мову. Амаль пры кожнай ячэйцы займаюцца гурткі беларусазнаўства. Заняткі ў гуртках, школах сялянскай моладзі і політшколах рабочай моладзі адбываюцца на беларускай і яўрэйскай мовах.

У Мазыры-ж праца трохі слабей. Беларуская мова сярод часткі організацыі яшчэ ня стала моваю, якою карыстаюцца ў штодзеннай працы.

Палкамі ў калёсах зьяўляюцца — недахоп літаратуры і адсутнасьць політграматы на беларускай мове.

Да рэчы, няхай ня ў крыўду будзе сказана Белдзяржвыдату, чуюцца крыкі і запатрабаваньні з усіх акругаў: — даеш літаратуру, даеш падручнікі на беларускай мове! Становішча атрымоўваецца непажаданае: праца пераводзіцца на беларускую мову, а як справа даходзіць да пераапрацоўкі матар'ялу—дык і стоп машына, кніг і „днём з агнём ня знойдзеш“.

У Аршанскай акрузе беларусізацыя, бязумоўна, мае посьпехі. У горадзе гарадзкім райкам, некалькі ячэек і частка піонэрскіх атрадаў працуюць выключна на беларускай мове.

У Лядненскім раёне (Аршанскай акругі) беларусізацыя прасунулася і ў быт комсамольцаў: песьні сьпяваюцца на беларускай мове, насьценная газэта складаецца выключна з беларускіх матар'ялаў, політфанты праводзяцца пабеларуску і г. д.

У Случчыне, судзячы па дакладу акругкамола на акруговай конфэрэнцыі, у частцы з ячэек заўважваецца формальная беларусізацыя, беларусіза-

цыя пратаколаў, але далёка ня ўсёй працы, калі ўсе сходы і паседжаньні яшчэ і да гэтага часу вядуцца на расійскай мове.

Корань зла знойдзены ў тым, што большая колькасьць комсамольцаў няпісьменныя пабеларуску і дзеля гэтага ў Случчыне асноўнаю задачаю пастаўлена навучаньне ўсіх комсамольцаў беларускай грамаце.

Беларуская мова ўнесена ў програму політшкол і школ рабочай моладзі.

Мы вышэй прывялі некалькі адрыўкаў з найбольш тыповых акругаў.

Надыходзячы ў жніўні месяцы пленум ЦК ЛКСМБ дасьць ацэнку працы нашых комсамольскіх організацый па беларусізацыі.

Ня гледзячы на ўсе тыя, бязумоўныя, дасягненьні, якія ўжо маюцца, аднак недахопаў у працы па беларусізацыі яшчэ шмат.

Растлумачваньне і популярызацыя партыйнай пастаноўкі пытаньняў нацыянальнай політыкі ў шмат комсамольскіх ячэек пастаўлена слаба і няпоўна.

Толькі гэтым можна і растлумачыць дзе-небудзь выпадкі, якія заўважваюцца сям-там, як напрыклад, у Мазырскай акрузе, калі ячэйковы актывісты на пытаньне аб тым, якія посьпехі беларусізацыі, адказвае: „На што-ж нам вучыць беларускую мову, гэта-ж толькі адказным працаўнікам трэба".

Або ў Ветрынскім пагранічным раёне, Полацкай акругі, на пляцоўцы дапрызыўнікаў гаварылася аб неабходнасьці вывучаць не беларускую, а... „міжнародную" мову, быццам-бы „гэта будзе больш інтэрнацыянальна".

Падобныя прыклады кажуць аб путаніцы і політычнай несьвядомасьці, якія маюцца ў мазгох некаторых комсамольцаў.

Рацэпт, паўтараем, просты:

— *Упартае, штодзеннае шырокае растлумачваньне політыкі комуністычнай партыі ў нацыянальным пытаньні.*

Недахопамі ў дзейнасьці па беларусізацыі трэба адзначыць:

— Адсутнасьць у некаторых з організацый плянавасьці, організаванасьці і кантролю выкананьня прымаемых пастаноў.

— Нявыстарчаючая колькасьць агульна-політычнай і комсамольскай літаратуры на беларускай мове.

— Усё яшчэ нявыстарчаючае поўнае высоўваньне беларусаў-рабочых у якасьці раённага і акруговага актыву.

— Няпоўнае правядзеньне ў жыцьцё зазначэньняў ЦК ЛКСМБ аб пераводзе працы сярод піонэраў на беларускую мову.

Некаторыя з організацый задачу беларусізацыі разумеюць толькі, як задачу вывучэньня беларускай мовы.

Пытаньне трэба яшчэ паставіць больш шырока.

Трэба ўцягнуць комсамольца ў гаспадарча-культурнае адраджэньне краю.

Шырэй павінны прымаць удзел комсамольцы ў краязнаўчых гуртках.

Комсамольскія выданьні на беларускай мове ў нявыстарчаючай яшчэ колькасьці прасунуты ў масы працоўнай моладзі.

Распаўсюджваньне неабходна павялічыць, падпіска павінна пайсьці наперад!

Моладзь слаба яшчэ знаёма з беларускай літаратурай. Вельмі часта ў нашых бібліотэках і кутках ня зусім добра падабраны комплекты па беларускай літаратуры.

Вельмі рэдкім гасьцём у гушчы комсамольскага актыву (асабліва гарадзкога) зьяўляецца часопісь „Маладняк".

Справу беларусізацыі трэба яшчэ больш энэргічна пасунуць наперад!

**А. Курцік.**

* * *

Нашто глядзіш так мне у вочы,
Скажы, о любая, скажы?
Пад гэты змрок халоднай ночы
Я не магу з табою жыць.
Я знаю сэрца твае б'ецца
Агнём ня выпітай крыві,
Ї вось затым—ў шырокім сьвеце—
Хачу я песьні абнавіць..
Ты плачаш, плачаш, сьлёзы льлюцца,
Яны гараць, пякуць агнём.
Глядзі навокал: кветкі й людзі
Цябе вітаюць з новым днём.
А так нядаўна так шчасьліва
Твой сьмех палаў у маіх грудзёх,
Калі мы дружна, хоць маўклівa,
Ішлі змагацца за жыцьцё.
Парой ты песьні свае пела,
Як птушка вольнасьці й диброў,
Ї ўсё на нівах паланела,
Як паланее толькі кроў!
Ї так ішлі ў трывозе ночы,
Так беглі дні і ўсё жыцьцё,
А я маўчаў і толькі вочы
Шукалі нешта пад трысьцём...
Ї я ня знаў, што на курганах
Душу мяцежную аддам
Усяму, што з подыхам сьвітаньня
Імкнецца ў радасную даль.
Дзе ёсьць другая маладзіца,
Ї гэта песьня для другой,—
Я толькі ёй адной маліўся,
Адну кахаў сярод лугоў.
Чаго-ж глядзіш так мне у вочы,
Скажы, о любая, скажы?
Пад гэты змрок халоднай ночы
Я не магу з табою жыць!

**Валеры Маракоў.**

# Карысныя парады ў гаспадарцы

## Як сабраць насенную канюшыну.

Каб атрымаць з пакінутай на насеньне палоскі канюшыны больш зярнят добрай якасьці—прытрымлівайся пры зборы яе наступных правіл:

1) Пачынай збор (касьбу альбо зжынаньне), калі большая частка галовак пабурэе і рассыпаецца, калі патрэш на руцэ (мал. 1). Калі будзеш чакаць таго часу, каб усе галоўкі дасьпелі—многа лепшых зярнят перасьпее і асыплецца.

2) Зярняты ў сьпелай канюшыны павінны быць жоўтыя з фіолетавымі плямамі; зялёныя зярняты—не дасьпелыя.

3) Збор рабі сярпом і вяжы канюшыну ў снапы; у крайнім выпадку скасі канюшыну касой з лучком, прасушы дні два ў радах (пракосах), а пасьля зьвяжы ў снапы.




4) Канюшынныя снапы састаў дзеля прасушкі ў 10-ці снаповыя бабкі (мал. 3) альбо, яшчэ лепш, страхою (мал. 2).

5) Калі снапы выстаяцца, зложы іх у застаронак, як хлеб, і накрый сьвежай саломай. Калі снапы сыраватыя, зложы іх між убітымі ў зямлю каламі ў два рады (галоўкамі ў сярэдзіну) і зьверху накрый саломай.

6) Імкніся сабраць насенную канюшыну ў сухую пагоду (надвор'е), бо йначай пры зборы будзе вялікі ўрон зярнят і якасьць іх будзе кепскай.

7) Малацьбу канюшыны адложы да моцных марозаў, калі вільгаць з снапоў вымарожваецца і зярняты лягчэй вымалочваюцца.

## Парады гаспадару.

### Колькі малодзіва даваць цяляці?

У нас звычайна робіцца так, што ўсё выдаенае малодзіва аддаецца цяляці. Гэта зусім ня добра,—цялё абап'ецца малака і псуе сабе жывот. Паіць цялё трэба ўзгадняючы вагу малака з вагою цяляці. На 7-8 фунтаў жывой вагі цяляці даецца 1 фунт малака. Скажам, калі цялё важыць паўтара пуды, то трэба даваць яму 7-8 фунтаў або 5-6 бутэляк у суткі. У першы тыдзень цялё поіцца па разоў 4-5 у суткі нормай па бутэльцы кожны раз. Бычком можна даваць малака больш, прыблізна да $1/5$ іх жывой вагі.

### Як узгадаваць цялё.

З пятага тыдню цялё трэба пачаць паіць малаком і добра было-б, каб перагатаваным.

З трэйцяга месяца цялятам дабаўляецца бульба па 6-7 фунтаў, кармовых буракоў, і па 1-2 фунты жмыхаў; дробнага мурожнага сена даваць уволю. Аўса даваць у гэты тэрмін ня можна, бо цялё яго не пераджоўвае і пачынае балець жыватом.

З 4-5 месяцаў карысна даваць цяляці па фунтаў 7-8 жытніх або пшанічных вотрубяй.

З 6-ці месячнага ўзросту і да году пераходзяць на харчаваньне сенам, прыблізна па 10-12 фунтаў на дзень добрага мурожнага сена.

К канцу году цялё трэба адвучыць ад пойла і перавесьці на звычайную ваду.

### Як вылячыць скаціну ад атрутных траў.

Скаціна наеўшыся зялёнае харчы на балоце, дзе шмат сорных і атрутных расьлін, траціць жвачку, вылучае пену, дрыжыць усім целам і г. д. Да ядавітых траў належыць: хвошч, малачай, дурман, лупін, бялянка. Пры лячэньні трэба расьцерці ўсё цела шпігнерам, зьмешаным з алеем. У сярэдзіну трэба даваць 1 фунт горкае солі з адварам ільнянага масла, або адвару з дубовае ці вярбовае кары па паўбутэлькі праз кожныя 2-3 гадзіны. Жвачку можна ў каровы вызваць,—скаціну прымушаюць жаваць вузлы вяроўкі, змазаныя дзёгцем.

### Як пазбавіцца ад кішачных рабакоў.

Рабакі ў скаціны бываюць розныя: круглыя і, як ленты. Рабакі заводзяцца ад таго, што скаціна пасецца на мокрым месцы. Агульныя адзнакі хваробы наступныя: конь або карова худзее, растройства кішачніка і, нарэшце, рабакі выходзяць разам з калам. Для лячэньня ўжываюць: глаўберавая соль, якая выганяе рабакоў. Можна параіць адвар цытворнага насеньня па 2-3 бутэлькі на дзень

### Як пазбавіцца ад колікаў у коняй і апушэньня ў кароў.

Як колікі ў коняй, так і апушэньне ў кароў здараюцца летам ад таго, што аб'ядуцца сорнае травы і сакавітае канюшыны. Адзнакі хваробы наступныя: моцныя болі ў жываце, жывот узьнімаецца (асабліва левы бок), хвароба даводзіць скаціну да сьмерці.

Калі блізка няма вэт. доктара, то самому трэба скаціну мерным шагам ганяць і ня даваць ёй застаяцца і лажыцца. Карысна хвораму каню або карове паставіць у задні праход клісьцер з мыльнае халоднае перагатованае вады ($1/2$ вядра вады на прыём). Пасьля клісьцера хворай скаціне неабходна расьціраць жывот з абодвых бакоў адначасова растворам шпігнеру, зьмешаным на палову з алеем. Скаціне можна даваць $1 1/2$ фунты горкае солі, распушчанае ў бутэльцы гарачае вады.

# ЖЫЦЬЦЁ І

## Жыцьцё нашай моладзі.

*(Пасёлак Рудзенск, Сьмілавіцкі раён).*

**Наш клюб.**

Вечар. Ажывае Рудзенскі клюб. Вясёлыя рэволюцыйныя песьні будзяць летні спакой ночы. Сярод шапак праглядваюць дзявочыя хустачкі. Адны спацыруюць ля клюбу, другія сядзяць за чытаньнем кніжак, газэтаў. І калі паглядзець на жыцьцё Рудзенскай моладзі, дык яно шмат чым адрозьніваецца ад іншых тутэйшых вёсак.

Самае галоўнае тое, што ў Рудзенску ёсьць клюб „Луначарскага". Тут уся вясёласьць, тут уся амаль культ-асьветная праца. У клюбе часта наладжваюцца вечары чыткі газэт, спэктаклі, вечары самадзейнасьці. Хаты чытальні ў Рудзенску сёлета няма. Няма сродкаў на ўтрыманьне яе і часта тая праца, што павінна весьціся ў хаце-чытальні, адбываецца ў памяшканьні школы.

**Жыцьцё піонэраў.**

Маладыя дзеці ў значнай сваёй колькасьці ў атрадах піонэраў.

Атрадаў два. Сялянства прыхільна адносіцца да піонэраў. Гэта відаць з таго, што яны нічога ня маюць супроць, калі іх дзіця паступае ў піонэр-атрад. З піонэрамі вельмі добра працуе настаўніца Хрэнава. Ставіць з імі спэктаклі, вучыць іх дэклямацыі і г. д.

**Адносіны моладзі да друку.**

Выдаецца ў Рудзенску насьценная газэта, якую выдае комсамольская ячэйка. Насьценгазэта цікавая, добрага зьместу. Нават завідуюць гарадзкія шэфы. Дрэнна тое, што рэдка выходзіць. Часта рэдкалегія засыпае. Калі-ні-калі выпускаецца вусная газэта. У газэты пішуць як комсамольцы, піонэры, так і беспартыйная моладзь.

**Праца грамадзкіх організацый.**

Ёсьць у Рудзенску ячэйка „Прэч няпісьменнасьць", але слабая, мала сяброў. Працуе слаба. Ячэйка комсамолу мала прымае ўдзелу ў яе працы Працаю, амаль што, усёю кіруе настаўніца Лубочкіна. Беспартыйная моладзь прымае актыўны ўдзел у грамадзкіх організацыях, як напр., ячэйцы МОПР, у правядзеньні якога-небудзь рэволюцыйнага сьвята і інш.

**Што дрэннага.**

Праўда, бывае часам, што калі-небудзь хлопцы і шалёных капель уцягнуць, але ня відаць на вуліцы, каб біліся, качаліся. Але лепш было-б, каб тыя грошы, якія яны трацяць на гарэлку, аддалі-б на выпіску газэт, кніжак, часопісяй—такое маё пажаданьне нскаторым нашым хлопцам Рудзенску. **Комсамолец.**

## Больш такіх сходаў.

*(м. Капыль, Случчына).*

Ня так даўно наша ячэйка ЛКСМБ пры сельсавеце склікала агульны сход у 4-м раёне мястэчка. На сходзе прысутнічала шмат беспартыйнае моладзі. На парадку дню стаяла справаздача старшыні сельсавету, зацьверджаньне пратаколу бюро і бягучыя справы.

У яскравых рысах старшыня абмаляваў працу сельсавету. Гутарылі аб зямлі, аб сенажаці, аб здабываньні торфу і інш. Сход прайшоў вельмі цікавым.

Задачаю ячэйкі зьяўляецца налажваць больш такіх сходаў. **Н. Р.**

## Кіраўнік „хварэе".

Вайсковы гурток з'організаваўся **пры Кабыльскай ячэйцы, Росткаўскага сельсавету** (Аршаншчына) яшчэ ў канцы 1925 г. Праца спачатку йшла дрэнна, пасьля крыху палепшылася, а цяпер зноў заняпала.

Прычына гэтаму тая, што наш кіраўнік гуртка пачаў хадзіць не на занятькі, а да дзяўчыны. Мы вымушаны былі шукаць другога кіраўніка. Знашлі. Але гэты „хварэе". То „горла яму баліць", то „мала сабралася на занятькі" і г. д.

І яшчэ горай, дык гэта вайсковы гурток пераведзен на хутар **Я. Кіндалінскага.** Праца зусім заняпала. Гурток стане тады працаздольным, калі кіраўнік будзе ўважлівы адносіцца да занятькаў, а таксама, калі гурток будзе пераведзен з вышэйпамянёнага хутара.

**Юнкор з вёскі.**

## Непачаты куток працы.

Вёска **Фясіўка (Ляднінскі раён, Бельскі сельсавет)** надта адстала ў сваім культурным разьвіцьці ад суседніх вёсак.

Асабліва гэта адчуваецца на моладзі і дзецях. Моладзь п'е самагон, буяніць, ходзіць у царкву.

Дзеці піонэрскага ўзросту пагалоўна ўсе кураць, носяць з сабой тутунь і запалкі. Цяжка глядзець на дзіцянё з паўаршына росту, з цыгаркай у зубах!

У **Фясіўцы** няма ні комсамольцаў, ні атраду Ю. П.

Трэба суседнім ячэйкам ЛКСМБ зьвярнуць увагу на гэтую вёску і павесьці там працу. Праўда, умовы для працы цяжкія бо пануе цемра, але маецца шмат такой моладзі, якая прыхільна спаткае захады па ўздыму культурнага ўзроўню вёскі.

**Юнкор з вёскі.**



## Ня цікавяцца працаю.

*(Мястэчка Капыль, яч. ЛКСМБ пры сельсавеце, Случчына).*

На прадвесьні гэтага году з нашае ячэйкі быў вылучаны комсамолец у Слуцак на 3-х месячныя сельска-гаспадарчыя курсы. Прабыўшы там вызначаны тэрмін, ён зноў вярнуўся ў нашу ячэйку, з мэтаю організаваць сельска-гаспадарчы гурток. Так яно і зроблена. Гурток маецца, але дрэнна толькі тое, што ўсіх сяброў у ячэйцы налічваецца больш 40 чал., а на занятькі наведваюць толькі 16—17. А дзе-ж астатнія?

Астатніх можна бачыць на „брахалаўцы". Швэндаюцца, залажыўшы рукі ў кішэні і ні аб чым ня думаюць. Не мяшала-б бюро ячэйкі зьвярнуць на гэта належную ўвагу. Кожны комсамолец павінен быць прыкладным у сваёй гаспадарцы. Нехай аб гэтым помніць кожны з сяброў ячэйкі.

**Н. Р.**

## І ў нас „рэжым эканоміі".

*(Каменская ячэйка ЛКСМБ, Узьдзенскага раёну).*

Наша ячэйка атрымоўвае газэты і надта цікавіцца аддзелам „Рэжым эканоміі". Вось і пачалі мы яго праводзіць у жыцьцё і перш за ўсё ў сваёй канцыляры.

Раней на кожным сходзе і паседжаньні пісалі пратаколы і запісвалі галоўныя моманты дакладу. Цяпер-жа ў зьвязку з правядзеньнем кампаніі рэжыму эканоміі, наша ячэйка пачала эканоміць на паперы. На паседжаньнях бюро ніколі ня пішуць пратаколу, а сакратар у блёк-нот запісвае парадак дню паседжаньня. І—толькі. На агульным-жа сходзе, праўда, пратаколы пішуцца, але ў трох словах, напрыклад: даклад сябра сельсавету такога-та і такога-та. Ухвалілі працу лічыць здавальняючай.

А я-б, у мэтах „рэжыму эканоміі" ніколі не склікаў-бы сходаў. Ніякай паперы не патрэбна было-б і боты былі-б цэлыя.

**Комсамолец.**

# БЫТ МОЛАДЗІ.

## Дасягненьні па фізкультуры.

(*М-ка Капыль, Слуцкае акругі*).

Пытаньне аб фізычным выхаваньні наогул у нас стаіць надта дрэнна. Мы маем весті, што ў некаторых вёсках на фізкультуру яшчэ і дагэтуль сяляне глядзяць, як на нешта дзікае, старое. А гэтага не павінна быць. Мы павінны дасягнуць таго, каб уся моладзь была ахоплена фізычным выхаваньнем.

Мы ня будзем казаць аб самых глухіх вёсках, куды не даходзіць прамень сьвету, мы возьмем наш Капыль і паглядзім, як сяляне глядзелі гадоў пару таму назад на гэтую фізкультуру. Мы ўбачым, што ня толькі старыя, а й моладзь зусім глядзела скоса на таго, хто зьявіцца ў трусіках.

Толькі два гады таму назад у Капылі заснавалася спорт-пляцоўка і гурток з 2-3-х чалавек да й то, як бабы казалі, запісаліся, „хто сораму ня мае". Праца з пачатку йшла зусім кепска. Інструктар, нехта Адрыянаў, толькі і ведаў, што сядзець у сталоўцы і ў п'яным выглядзе паказваць там-жа свае „фізкультурныя нумары", а гурткам і працаю ён зусім ня цікавіўся. Вядома, што пры гэтакіх адносінах інструктара да працы і гэткаю зацікаўленасьцю, якая была ў Адрыянава, гурток ня мог пасунуцца наперад і прыцягнуць у свае шэрагі сялянскую моладзь.

Толькі вось гэтаю вясною акруговы аддзел фізкультуры прыслаў новага інструктара Ланюка.

Ланюк з першага дню здолеў павесьці працу ў гуртку і зацікавіць сялянскую моладзь. Мы цяпер маем дзьве групы: мужчынскую і жаночую. Праца йдзе— лепш ня трэба. У гурткох працуюць ня толькі комсамольцы, а і беспартыйная моладзь. Гуртком некалькі разоў рабіліся выступленьні. Сяляне надта зацікаўлены фізгуртком і яго працаю.

**Падлужны.**

## Комсамольская ячэйка... на паперы.

(*вёска Кабыльле, Лядненскі раён Аршаншчына*).

Ня гледзячы на тое, што ячэйка ЛКСМБ у вышэйпамянёнай вёсцы існуе каля двух гадоў, аднак працуе яна кепска. Падмацуем гэта прыкладамі: насьценная газэта, якая вышла к 1-му мая, цяпер памерла; ухвалілі пабудаваць, спортпляцоўку—дарэмна, няма; заняткі вайсковага гуртка не адбываюцца.



Комсамольцы, у большасьці сваёй, адмаўляюцца тым, што няма часу, а як на вясельле ісьці, дык і час знаходзіцца, а там спрэчкі падымуць з-за скокаў (як гэта было 21 чэрвеня на вясельлі ў вёсцы Лаўках).

Аўторытэт ячэйкі сярод сялянства кепскі.

Мала знойдзецца сялян, якія пабыўшы адзін раз на сходзе ячэйкі, захочуць пайсьці другі раз. А чаму?—Сходы нічога не даюць селяніну, не закранаюць ніводнага боку яго жыцьця.

Ячэйка мала цікавіцца грамадзкім жыцьцём вёскі.

Узрост ячэйкі йдзе слаба.

Няўжо-ж і на далей так будзе?—Непавінна!

**Юнкор з вёскі.**

## Піонэры разьвінціліся.

(*Кабыльская ячэйка ЛКСМБ, Аршаншчына*).

Ужо другі год як пры нашай ячэйцы з'організаваўся піонэрскі атрад. Спачатку яго організацыі праца вялася нішто сабе. Ня ведаю, ці гэта важаты быў добры, ці больш было кіраўніцтва з боку ячэйкі, але піонэры былі піонэрамі. Працавалі, вучыліся. А цепер зусім ня тое. Амаль што кожны дзень піонэры здаюць свае гальштукі і выходзяць з шэрагу піонэратраду. І чым гэта растлумачыць,—невядома.

Ячэйка комсамолу, зьвярні належную ўвагу!

**Кастрычнік.**

## І ўлетку вучымся.

(*Вёска Баслоўцы, Случчына*)

Сярэднікаўская ячэйка складаецца з комсамольцаў, галоўным чынам, з трох вёсак: Сярэднікі, Баслоўцы і Лапатычы. Для лепшага вядзеньня політасьветнай працы, ячэйка разьбіта на тры гурткі (па ліку вёсак), якія працуюць па асобных вёсках.

Баслоўскі гурток распачаў працу ў ліпені месяцы г. г. На першым організацыйным сходзе афармілі сьпіс гуртка, пагутарылі аб працы, выбралі сакратара. Цяпер заняткі адбываюцца штотыднёва. У гуртку налічваецца 10 чалавек. Працу пачалі з прапрацоўкі бібліотэчкі вясковага актыву РЛКСМ „ИЗДАНИЕ МОЛОДАЯ ГВАРДИЯ".

Назначаецца дакладчык, які на наступных занятках робіць даклад на тэму прачытанае ім кніжкі з бібліотэчкі. Пасьля дакладу задаюцца пытаньні, а затым спрэчкі. Заняткі праходзяць жыва.

У далейшым будзем прапрацоўваць політграмату Яраслаўскага.

**Гуртковец.**

## Буду сеяць.

Ніўка мая, ніўка, ўзорана сахою,
Буду сеяць збожжа раньняю парою:
Буду сеяць збожжа да усходу сонца,
Як раса срабрыста акрапіла ніўку,
Каб сонейка ясна працу прывітала,
І за працу шчыру добры плён паслала.

**Макоўскі.**

## ПАД ГАРМОНІК.

Пад гарою, пад крутою
Там расьце вярбіны куст.
Ну, й даведзен клюб у вёсцы:
Паламаны, голы, пуст.

За ракой сабачка брэша,
На ім шэрсьць кудлатая.
Хачу стаці комсамолкай
Я, дзяўчына бедная.

А у полі, пад мяжою,
Бела красачка цьвіце.
Эх, ячэйка у нас МОПР'у
І мацнее і расьце!

А у полі васілёчак
Сіненькі калышацца.
Камуніст мяне кахае,
Ён са мной запішацца.

Я пайду у луг зялёны,
Засьпяваю го-го-го!
Камуністу няма ганьбы,
Выду замуж за яго.

Не сядзіцца, не ляжыцца
Мне у хаце дома:
Мілы цягне у чытальню
Слухаць агранома.

**Зэшка Бульбянік.**

# ФЭЛЬЛЕТОН.

## Як Сьцёпка выпісаў часопісь „Малады Араты“.

*(Сапраўднае).*

Выклік сябра ў роднай часопісі „М. А.“ падпісаца на яе, ня мог не зачапіць чулага сэрца Сьцёпкі Л.

— Што, буду я апошнім?—сказаў сам сабе Сьцёпка,—о, не, ніколі, нізашто... Каб мяне ячшэ раз выклікалі ды сарамацілі, што я ня выпісваю „М. А.“. О, гэтага ня будзе, я не дапушчуся...

Але раптам думкі павярнулі ў адваротны бок.

— Адкуль-жа ўзяць грошы?

Чытаў Сьцёпка ня раз допісы юнкораў аб тым, адкуль яны знаходзілі сродкі на выпіску „Маладога Аратага“. Ня меўшы пад рукамі часопісі, Сьцёпка накіраваўся ў Нардом, дзе на чырвана пафарбованых сталох ляжалі часопісі, газэты, брошуры і г. д.

Вось ён і ў Нардоме. Уважліва перагортвае старонкі часопісі... Прыглядаецца... Шукае парады, адкуль знайсьці грошы. Бац—допіс... „Адкуль я знайшоў грошы на выпіску“. Прачытаў... У допісе зазначалася, што юнкор зрабіў некалькі пар венікаў, прадаў на рынак і на здабытыя грошы выпісаў „Малады Араты“.



„Малады Араты“ я пашыраю лезунг—5000 ажыццяўляю.

Але гэта не спадабалася Сьцёпку.

— Ну яго к чорту! Вось ячшэ пайду ў лес! Не, гэта стацьця не падыходзіць.

Ї зноў зашалясьцелі старонкі часопісі. Пераглядзеў адну—няма, другую—маецца. „М. А.“ дзяліўся з чытачамі, адкуль ён знайшоў грошы на выпіску.

— У нас было шмат курэй ды такія нясушчыя ўсё, што аж завідавалі суседзі нам,—так пачынаўся допіс. Дык вось і папрасіў гэта я ў бацькоў, каб яны далі з дзесятак яец на выпіску часопісі. Бацькі супярэчылі. Я вырашыў самавольна ўзяць некалькі яец з шафы (яны там стаялі), а другія—з-пад квактухі. Вышла ўсё гладка... Часопісь выпісаў...

Сьцёпка пакаціўся са сьмеху:

— Яйца выпісалі часопісь! Ха-ха-ха!—сьмяяўся Сьцёпка, сьмяяліся і прысутныя.

Добрая рэч гэтыя яйца,—сказаў Сьцёпка, але да маіх умоваў не падыходзяць. Курэй у нас мала ды і яйца малыя, а ўрэшце ня лоўка неяк яйца на часопісь прадаваць, тым больш з пад квактухі красьці. Не, гэта не падыходзіць...

Ї зноў зашалясьцелі старонка за старонкаю.

Допісы „адкуль я найшоў грошы на выпіску“ праглядвалі сярод вялікіх апавяданьняў, артыкулаў і вершаў.

Урэшце, Сьцёпка знайшоў ячшэ адзін цікавы для яго допіс. Юнкор Арцёмчык пісаў, што ён, як закалолі парсюка, дык самую лепшую шчэць з хібу рваў сам, а ня бацька і адкладаў асобна ад рэшата. Шчэць прадаў і за грошы на тры месяцы выпісаў „Малады Араты“.

— Ну, здаецца гэта падыйдзе!—радасна сказаў сам сабе Сьцёпка.

Парсюк у нас доўгі, тоўсты, шчэць пруткая, вялікая... Во дзе знайду грошы!

Ї Сьцёпка заплюшчыўшы вочы, абапёрся на рукі. Ї здалося яму, што перад ім ляжыць іх парсюк з разяўленым ротам, а ён узброены цьвікам на калодцы старэнна завіхаецца ля хібу, рве шчэць і кладзе у раней падрыхтаванае месца.

Перад яго вачыма ўстае іх коопэратыў... Пошта... Ї ўрэшце... „Малады Араты“.

Сьцёпка падняў галаву...

У зьдзяйсьненьні пляну выпіскі была няўдача. Парсюка бацька зьбіраўся калоць ля Пакроў, а часопісь трэба было выпісаць, як найхутчэй.

Але, ня трацячы бадзёрасьці духу, Сьцёпка ня ўнываў. Допіс юнкора Арцёмчыка зрабіў належны ўплыў на яго. Нешта падказвала яму, што вось, вось грошы, але ты, Сьцёпка, ня можаш схапіць іх.

Сьцёпка стаяў і думаў... Ячшэ раз прачытаў допіс...

— Шчэць? Г-м-м? А, што калі ня шчэць, а валасы...

Грошы вось, вось у яго руках.

— Ага, так і ёсьць, ня шчэць, а валасы... У нашага каня вялікі густы хвост. Што, каб яго адрэзаць? Так і быць—адрэжу,—сказаў сам сабе Сьцёпка. „З'агіцірую“ бацьку, што каню ўлетку ня трэба вялікага хваста—малым будзе хутчэй віляць і адмахвацца ад мух, а там?—А там узброюся кравецкімі ножанкамі або сьцізорыкам і—хвіліна працы, хваста няма... А „Малады Араты“—на стале.

Так яно і было. У вадну з прыгожых раніц, калі сонца ласкава ўсьміхалася прыродзе і пасылала свае жыватворчыя праменьні, і калі сьпявалі птушкі, а ля лесу пастух іграў на жалейцы—у гэту пекную раніцу Сьцёпка „у глыбокім Лозе“ узброены сьцізорыкам завіхаўся ля хваста і пасма за пасмаю адразаў яго...

„Я адрэзаў хвост у нашага каня. Валосьсе прадаў у коопэратыў за 45 капеек і выпісаў „Малады Араты“ на тры месяцы“.

Такі допіс атрымалі мы ад аднаго юнкора Случчыны.

* * *

Цяпер ніхто ня можа сказаць, што моладзь не жадае выпісваць і чытаць друкаванае слова. Хоць будзе меней на 5 куранят, будуць коні без хвастоў, але часопісь „Малады Араты“ будзе ў кожнага комсамольца, у кожнага маладога селяніна.

**Янка з Логу.**

# Комсамольская творчасьць*).

(Па матар'ялах, прысланых у рэдакцыю „Маладога Аратага“).

Найчасьцей сярод нашай моладзі існуе погляд, што перадача сваіх думак, або тых ці іншых фактаў з жыцьця вершам, куды цікавей для чытача, чым гэта выказаць у звычайным артыкуле. Нават пры складаньні сваёй насьценнай газэты корэспондэнты ў большасьці стараюцца пісаць вершам. У гэткіх выпадках, бязумоўна, ня прымаецца пад увагу ні вартасьць вершу, ні здольнасьць аўтара да пісаньня. Зьмяшчаецца ўсё, што пішацца. Такія ўхілы апрача шкоды як для газэты, так і для слабых аўтараў яе, нічога больш не даюць. Аўтар пасьля таго, як пачнуць зьмяшчаць у сваёй газэце яго вершыкі, лічыць сябе досыць моцным у пісаньні і пачынае пасылаць іх у рэдакцыю. Вось чаму вельмі малы процант можа быць выбраным гэтых самых вершаў для зьмяшчэньня.

**Аб перайманьнях.** Перайманьне ў пачынаючых аўтараў сустракаецца, бадай, у кожным вершы; бязумоўна, перайманьне да некаторай ступені бывае і карысным для аўтара. Мы ведаем такія факты, калі вялікія майстры слова ў пачатку сваёй працы, у пачатку разьвіцьця свайго таленту пераймалі творы сваіх папярэднікаў, запазычалі ад іх форму, простую ці аналёгічную думку іх твораў.

Перайманьні нашых маладых хлопцаў ідуць па двух кірунках: ад творчасьці „Маладняка“ і ад творчасьці старэйшых пісьменьнікаў.

І калі пачынаючы пісьменьнік напіша свой верш, дык найчасьцей атрымаецца копія з чыйго-небудзь вершу, толькі з унесенымі папраўкамі новага аўтара. Гэткіх выпадкаў мы маем досыць. Вось к прыкладу:

*„Дум панаваньня*
*пачынае бурчаць у галаве“...*

Хлапец імкнецца да адшукваньня вобразаў, пераймае гэта ў некаторых нашых маладнякоўцаў. Але трэба сказаць, што гэткае перайманьне, гэткія ўплывы зусім часта і шкодны. Той ці іншы таварыш бесьвядома ўспрымае творчасьць якога-небудзь аўтара і гэтак-жа сама безсьвядома творыць сваё з уплывам прачытанага раней, успрынятага. Аўтар, вытрымку з якога мы бралі, ухіліўся ў вобразную крайнасьць. Па яго думцы вобраз „думы бурчаць“ зусім добры. З гэтым, бязумоўна, ні адзін чалавек з чытачоў ня згодзіцца і палічыць гэта за дзіцячую нясталасьць.

Да гэтага трэба дадаць, што вартасьць твору і цікавасьць да яго значна ўзрастае, калі ён дае што-небудзь новае, тое, што да гэтага ня было яшчэ сказана. Гэта новае можа заключацца ў шмат якіх момантах творчасьці: тэма, апрацоўка тэмы (у даным выпаду сюжэту), падыход аўтара да твору, шчырасьць яго да перадаваемага і інш.

**Аб тэматыцы.** Вершы нашых комсамольскіх песьняроў у большасьці маюць вельмі малы круг тэмаў. Між гэтых тэмаў асноўнымі вызначаюцца: змаганьне і заклік да яго, Заходняя Беларусь і барацьба за вызваленьне Беларусі, новы быт і, урэшце, каханьне да комсамолкі.

*) Гл. № 13 „М А“.

Усе гэтыя тэмы у большасьці цікавілі чытачоў толькі ў свой час. Літаратурнага матар'ялу на гэтыя тэмы ў нас досыць напісана. Вось чаму ў большасьці вершы комсамольскіх песьняроў ня цікавыя. Таварышы яшчэ не пасьпелі разьвіць сваю мастацкую здольнасьць, а бяз гэтага мы бачым толькі перапевы імі ўжо напісанага старэйшымі, бязумоўна, перапевы няўдалыя. Поруч з гэтым шмат якія тавары шы бяруць тэмы Янкі Купалы, якія ён апрацоўваў 15-20 гадоў таму назад.

*...Гэй, даволі жыць бяз волі,*
*Працаваць усім панам!*
*Што нам трэба—хлеба і солі,*
*Трэба волі шчасьця нам...*

А. Кулакоўскі.

Тут простая капіроўка дарэволюцыйных мотываў Я. Купалы. Гэтак пісаць нельга, бо выходзіць вельмі сьмешная няпраўда пры сучасных абставінах.

Тэмаў у нашым жыцьці для апрацоўкі іх вельмі шмат. Трэба толькі ўмець выбіраць з іх самыя характэрныя, сьвежыя і цікавыя. Трэба чытаць пабольш сучасную літаратуру, бо ня дзіўна, што, ня ведаючы сучаснай літаратуры А. Кулакоўскі напісаў гэткія радкі.

Урэшце, неабходна нашым тавары шам зьвярнуць увагу яшчэ на адзін бок творчасьці—гэта конкрэтнасьць вобразаў і паасобных думак, выказаных як у ва ўсім вершы, гэтак і ў пэўных радкох, якія зьвязваюць сабою гэту думку. Нельга браць і апісваць некалькі зьяў адразу, бо малады пісьменьнік рызыкуе заблытацца ў іх. Цяжка будзе зразумець, што тут самае галоўнае і на што аўтар хацеў зьвярнуць, увагу. І запраўды, калі мы чытаем у вадным вершы і аб ячэйцы, і аб новым быце, і аб МОПР'ы і інш. і інш.—у нас раскідаецца ўвага. Больш таго, гэта часта даводзіць тавары шоў да таго, што яны апісваючы вясну, упамінаюць аб сьпелым жыце, а то і аб сьнежных завеях. Мы ў папярэднім артыкуле ўжо адзначалі падобны выраз, дзе „вецер па гольлях нясецца“ (гэта па чыстым полі?). Да гэткіх зьяў трэба пільна прыглядацца, абдумваць іх. Калі ўжо нават і лічыш сам, што ўсё добра, пакажы другому, як мы ўжо казалі, раней, ён табе дапаможа.

Трэба шліфаваць ня толькі кожны выраз, але і кожнае слова, трэба:

...„*З сталі каваць, гартаваць гібкі верш*“...

Кажа вялікі мастак беларускага слова, поэт М. Багдановіч.

Іначай чытач застанецца *халодным каменем к твайму вершу, не захопіцца ім, і верш не дасягне сваёй мэты, ня дасьць нікому ніякае карысьці, ён зьявіцца толькі абцяжарваючым матар'ялам і для часопісі і для яе чытача.*

Аб гэтым нашым маладым поэтам забывацца ня трэба. Да нашай творчай энэргіі, надзвычайна павялічанай актыўнасьці трэба імкнуцца дадаць *культуру* якая дапаможа нам складаць *вялікія літаратурныя каштоўнасьці свайго часу, часу творчага будаўніцтва жыцьця працоўных ва ўсіх яго галінах.*

Аб апавяданьнях пагутарым у другі больш вальнейшы час.

А. Якімовіч.

# Навука і тэхніка.

**Перасаджваньне вялікага пальца нагі на руку.**

Ня так даўно нямецкаму доктару Порцэнту ўдалося перасадзіць вялікі палец нагі на руку. Спачатку аснова страчанага пальца рукі была злучана швом з вялікім пальцам нагі. Праз 27 дзён, у працягу якіх хворы знаходзіўся ў надта няпрыемным скручаным становішчы, аснова пальца рукі зрасталася з вялікім пальцам нагі. Пасьля гэтага было пачата адлучаньне апошняга ад ступні, на 33-ці дзень. Праз 3 месяцы вялікі палец нагі канчаткова прырос на руцэ і хворы добра ім уладае.

**Дзе ня ступала нага чалавека.**

Канадская палярная экспэдыцыя на 78 градусе паўночнае шырыні, на мейсцы, куды яшчэ ня ступала нага чалавека, знайшла некалькі рэчаў, невядома каму належачых. Нью Іорк—„Таймс“—паведамляе, што знойдзены апраравы ад акуляраў з паметкаю 1739 г., кавалачкі мужчынскае вопраткі і астаткі запісной кніжкі.

**Забясьпечаны аўтомобіль.**

У Парыжы ня так даўно быў спробаваны новы мэханізм, які здавальняюча разьвязваў-бы задачу забясьпечаньня язды аўтомобіля. Мэханізм падхватвае пешахода, на якога ён наяжджае, паднімае яго і асьцярожна садзіць на перадку аўтомобіля.

**Як будуюцца дамы ў Амэрыцы.**

У працягу месяца ў Амэрыцы вырастае жалезна-бэтонны 12 паверхавы дом. Усе працэсы будоўлі мэханізаваны. Праца каштавала 2,5 мільёнаў рублёў.

**Вынаходка савецкага вучонага.**

Усе нержавеючыя мэдыцынскія прылады і машыны павінны былі заказвацца намі за межамі СССР. Але профэсару Б. П. Аўсянікаву (Ленінград), які працуе ў лябараторыі тэхнолёгічнага інстытуту, удалося здабыць гэты склад ад ржаўчыны. Пачаліся перамовы з Ленінградзскім заводам аб вырабу з гэтага складу сталі.

**Гіганцкі протубэранец (віхраслуп).**

Увесну 1925 г. на Мэдонскай абсэрваторыі, у Францыі, удалося сфатаграфаваць на паверхні сонца выбух расплаўленага мэталу. Гаручы фантан узьняўся на вышыню 140.000 кілёмэтраў ад паверхні сонца і пад канец дасягнуў 695.000 кілёмэтраў.

**Трактар для перасоўваньня па лёдзе.**

У Амэрыцы выканана спэцыяльная канструкцыя трактараў для язды па лёдзе і сьнегу. Трактар рухаецца пры дапамозе чатырох-цыліндравага газавага рухавіка ў 33 конскіх сіл пры 1.200 зваротах у мінуту.

**Апэрацыі над сэрцам.**

У адным з Лёнданскіх шпіталяў зроблена рэдкая опэрацыя над сэрцам дзяўчынкі, якая ў 1921 г. лячылася ад пашырэньня сэрца. Над сэрцам была разрэзана скура і мускулы, вынута частка рабрыны і можна было наглядаць за біцьцём сэрца. Раскрылі наўкола торбачку сэрца і ў надта разрослай частцы сэрца зрабілі надрэз. Пасьля ўсё зашылі і хворая пасьля опэрацыі пачала хутка папраўляцца.

## Выпісваю і выклікаю.

Я, Л. Юркевіч, выпісваю часопіс „Маладыя Араты“ на 3 месяцы і выклікаю зробіць тое самае наступных таварышоў: (Магілеўскіх „Маладнякоўцаў)“.

1) В. Гарбацэвіча, Н. Маркаву, Р. Нядолю, П. Барацьбіта і К. Губарэвіча.

* * *

Я, Падабед Язэп, выпісваю „Малады Араты“ на 6 месцаў і выклікаю зрабіць гэта наступных таварышоў: А. Карачуна, А. Аўсянікава (Клімавічы), Яўг. Вігура (Мсьціслаў), Грашчанка (Гомель), Хурсіка (Полацак).

## Паштовая скрынка

**Адашчыку А., Ядрэўскаму М., Кулакоўскаму Аляксею, Хадкевічу Т., Нецярпліваму, Г. Андрэяву, Юрку Лявоннаму, Цішку Шпаку, Калбушніку П., А. Чарнышэвічу, Янку Кіму**—вашы вершы ня пойдуць. Раім вам уважліва пачытаць артыкул „Комсамольская Творчасьць“, які зьмешчан у № 13 і 14 „М. А.“.

Рэдактары: **А. Якімовіч.** **Я. Галодка.**

Менск. 1-я дзярж. друк. Зак. № 3346. Галоўлітбел № 19843.

# Што робіцца на сьвеце.

## Трэйці месяц упартай барацьбы ангельскіх вуглякопаў.

### Прычыны забастоўкі.

Забастоўка ангельскіх вуглякопаў прыняла гэраічны характар. Забастоўка вынікла з-за спробы шахтаўласьнікаў павялічыць працоўны дзень з сямі гадзін да васьмі і зьменшыць заработную плату шахцёраў.

Забаставалі гарнякі, а іх падтрымалі рабочыя іншых галін прамысловасьці Ангельшчыны. Распачалася ўсеагульная стачка, якая прыпыніла ўсё гаспадарчае жыцьцё краіны.

### Здрада правадыроў.

Гэнеральны савет профсаюзаў Ангельшчыны 7-га мая выпусьціў адозву аб тым, што ён ні на якія перамовы з урадам ня пойдзе. Але ў той-жа дзень правадыры профсаюзаў, забыўшыся аб тым, што раней казалі, пачалі перамовы з урадам. А 12-га мая гэнеральны савет пад націскам буржуазіі вырашыў прыпыніць усеагульную стачку. Але гарнякі вырашылі змагацца да канца.

— Горш, чым было, ня будзе,—казалі яны.

І вось ужо трэйці месяц рабочыя шахцёры ня йдуць на працу. Трэйці месяц, не атрымоўваючы заработнай платы, трымаюцца яны за справу палепшаньня свайго жыцьця.

### Становішча рабочых цяжкае.

Шмат якім сем'ям гарнякоў прышлося перасяліцца з сваіх, і без таго ўжо дрэнных, памяшканьняў у яшчэ больш дрэнныя. Шмат якія сем'і рабочых жывуць у быўшых стайнях.

Лічыцца за раскошу, хто з рабочых на кожнага сябра сям'і ў дзень мае: адну трэць фунта хлеба, адну восьмую фунта маргарыну, адну сёмую фунта картофлі і $^1/_{10}$ фунта цукру. Ні малака для дзяцей, ні мяса, ні круп, ні жыроў—няма. У шмат якіх раёнах застрахаваным не хватае дапамогі нават на хлеб.

### Змагаюцца, як „чэрці“.

Ангельскія комсамольцы прымаюць актыўны ўдзел у барацьбе гарнякоў. Іх лёзунг: „Змагайцеся, як чэрці“—быў лёзунгам усіх маладых вуглякопаў.

Газэта „Юны забастоўшчык“, якая выдавалася пры ўдзеле комсамолу, расхватвалася ўсімі маладымі шахцёрамі і, ня гледзячы на тое, што яна была тайнаю, распаўсюджвалася па ўсяму вугальнапрамысловаму раёну.

Паліцыя, якая дзесяткамі і сотнямі хватае комсамольцаў, стварыла ўжо норму для „адсідкі“ гэтых таварышоў у турмах. Калі комсамол нават і не абвінавачваўся ў пропагандзе і агітацыі—усёроўна норма для злоўленага комсамольца—2 месяцы адсідкі, турмы.

Ангельскі комсамол, ня гледзячы на тое, што паліцыя перасьледуе і ўжо многа пасадзіла ў турмы—будзе і на далей вясьці барацьбу за правы маладых шахцёраў Ангельшчыны.

### Прамысловасьць Ангельшчыны паралізавана.

Забастоўка вуглякопаў, якая прыпыніла падачу вуглю для чыгунак, фабрык і заводаў, адбіваецца моцна на ангельскай прамысловасьці.

Прадпрыемствы працуюць няпоўнай нагрузкаю, чыгуначна-дарожны рух моцна скарочаны.

Асабліва моцна адбілася забастоўка на чыгуначна-вытворчай і сталёваліцейнай прамысловасьці. Выработка чыгуну да забастоўкі раўнялася 539.100 тонаў у месяц (тона=61 пуду), а ў маі з пачатку забастоўкі выработка зьнізілася да 88.800 тонаў. Выпрацоўка сталі ў красавіку—661.000 тонаў, а ў маі толькі—45.700 тонаў, г. зн., меней чуць не ў 15 разоў.

Забастоўка штодзённа абыходзіцца ў 80 мільёнаў рублёў.

Такая вялікая страта вельмі непакоіць прамыслоўцаў і ўрад, сябры якога ў большасьці фабрыканты, самі церпяць надзвычайна вялікія страты.

Урад ўсімі сіламі імкнецца перамагчы забастоўку гарнякоў. Ангельскі ўрад прабуе абыйсьці гарнякоў з заду.

З гэтаю мэтаю ўрад задумаў унесьці раскол у шэрагі змагаючыхся гарнякоў, шляхам частковага задавальненьня дамаганьняў вуглякопаў па асобных раёнах.

Але Выканаўчы Камітэт фэдарацыі (аб'яднаньне) гарнякоў вынес рэзолюцыю: не згаджацца ні ўякім выпадку на павялічэньне працоўнага дня і зьмяншэньне платы за работу.

Апрача таго, гарнякі патрабуюць ранейшых умоў працы ў ва ўсёй краіне, а не паасобных раёнах.

### Прыняты закон аб павялічэньні працоўнага дню.

Ня так даўно ангельскі парлямант, пасьля надзвычайна бурных спрэчак, прыняў закон об павялічэньні працоўнага дню ў шахтах на 1 гадзіну. Гэты закон 8-га ліпеня быў зацьверджаны каралём.

Чым пагражае новы закон вуглякопам? А тым, што па новаму закону будзе ня толькі павялічэньне працоўнага дню гарнякоў, але і зьніжэньне платы за работу на 10 проц.

Павялічэньне-ж працоўнага дню прывядзе да зьмяншэньня ліку рабочых, якія працуюць у вугольных прамысловасьцях. Сама меней 150.000 горнарабочых будзе зараз-жа вызвалена ад працы.

Але заваёваны 7-мёхгадзінны працоўны дзень, здабыты ў выніку шматгадовай упартай барацьбы —вуглякопы бяз бою не аддадуць.

### Павялічым нашу дапамогу гарнякам.

Каб ангельскі ўрад і шахтаўласьнікі не ўзялі гарнякоў голадам, ім у першую чаргу неабходна матар'яльная дапамога, а падругое, каб у Ангельшчыну ня прывозілі замежнага вугалю.

Што зрабілі для гэтага згодніцкія правадыры рабочых Ангельшчыны і інш. краін? Амаль нічога.

Толькі наш Савецкі Саюз вядзе цьвёрдую пролетарскую лінію.

Ангельскія вуглякопы атрымалі ад нашых профэсыянальных саюзаў звыш. 4 мільёнаў руб. на падтрыманьне галодных сем'яў рабочых.

У васобе працоўных Савецкага Саюзу ангельскія капіталістыя бачаць самага сур'ёзнага дапаможніка справе ангельскіх гарнякоў і дзеля гэтага яны ня так даўно з вялікім абурэньнем пачалі кампанію супроць Савецкага Саюзу, думаючы гэтым нас напужаць.

Працоўныя СССР адказалі на наглыя нападкі ангельскіх капіталістых і іх ноту: „Рукі прэч ад савецкіх профсаюзаў!

Павялічым удубальт дапамогу ангельскім вуглякопам!

**Ю. Балсунскі.**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА
НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ
ВЫДАВЕЦТВА
## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
ДА КАНЦА 1926 ГОДУ.

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
ГАЗЭТА
**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к.
На 3 м-цы—75 кап. На 1 год—3 р. — к.
**Гарантуецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

## БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР
**Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР.**

Выдаецца адзін раз у м-ц, багата ілюстравана. „Б П“ зьмяшчае цэлы шэраг матэрыялаў, якія цікавяць дзяцей і памагаюць ім у працы (піонэр. організац.). **У часопісі прымаюць удзел усе лепшыя літаратурныя сілы Беларусі.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—20 кап. На 6 мес.—1 р. 20 к.
На 3 м-цы—60 кап. На 1 год—2 р. 40 к.
**Часопіс, апрача гэтага, прадаецца ва ўсіх кнігарнях і кіосках ДВБ.**

ЦІ ЧЫТАЕЦЕ

ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

## „МАЛАДЫ АРАТЫ“

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“— праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэн. бакамі жыцьця вёскі.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—для сялянскай моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаныя з працаю вёскі.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ з дасылкаю да хаты.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц | 15 к. | на 6 месяцаў | 90 к. |
| на 3 месяцы | 45 к. | на 1 год | 1 р. 80 к. |

**Падпіска на ўсе выданьні прымаецца ў Менску—канторай выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, на мясцох: вылучанымі ўпоўнаважнымі друку пры кожнай комсамольскай ячэйцы, агентамі выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ ЎСІХ ПАМЯНЁНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ:**
**Менск, Комсамольская, 25. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“**